

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# наша СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 43 (630)** **19 ЛІСТАПАДА 2003 г.**

**А. Р. Лукашэнку**
**Кіраўніку Беларускай Дзяржавы**

**Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!**

Мы ведаем Вас, як чалавека, неабыякавага да лёсу нашых помнікаў гісторыі і культуры. Дастаткова толькі прыгадаць Ваш асабісты ўдзел у адбудове Шклоўскай ратушы і гістарычнага цэнтра горада!

У сувязі з гэтым просім Вас выдаць прэзідэнтскі дэкрэт аб заканчэнні рэканструкцыі славутага Лідскага замка, заснаванага ў пачатку XIV ст., і выкарыстанні яго як аб'екта айчыннага і замежнага турызму.

Рэстаўрацыя замка пачалася ў 1978 годзе, былі асвоены значныя фінансавыя сродкі, работы ўжо набліжаліся да завяршэння, аднак у апошнія гады яны спыніліся і ўжо зробленае пастуова разбураецца. Нягледзячы на абяцанні закончыць рэстаўрацыйныя працы з боку былога і сённяшняга міністра культуры, справа пакуль не скранулася з месца.

Мы спадзяёмся, што Вы ўважліва паставіцеся да гэтага пытання.

З павагай

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**



**Так павінен выглядаць Лідскі замак. Фотарэканструкцыя І. Пешахонава.**

**Сп. Кабякову А. Ул.**
**Міністру эканомікі Рэспублікі Беларусь**

**Паважаны Андрэй Уладзіміравіч!**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" прапануе Вам уключыць у план фінансавання аб'ектаў рэстаўрацыі на 2004 год адзін з самых унікальных беларускіх замкаў –замак XIV ст. у г. Ліда.

Гэты помнік архітэктуры пачаў аднаўляцца яшчэ ў 1978 годзе і быў амаль зроблены. Але апошнія гады работы не фінансуюцца і паступова разбураецца тое, што было збудавана раней за дзяржаўныя (а гэта значыць, за нашыя) сродкі.

Ведаючы Вашу здольнасць лічыць народныя грошы на карысць дзяржавы, прапануем сканцэнтраваць неабходныя сродкі на канчатковую адбудову замка з мэтай ператварэння яго ў цэнтр міжнароднага турызму. Дарэчы, побач з замкам пустуе дзевяціпавярховы гатэль, а Ліда стаіць на цудоўнай аўтамагістралі паміж Менскам і Гродна.

Спадзяёмся на Вашую падтрымку.

**З павагай**

**Старшыня ТБМ А. А. Трусаў.**

**Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму амбасадару**
**Рэспублікі Латвія ў Рэспубліцы Беларусь**
**220013 вул. Дарашэвіча, 6 а**

**Вельмішаноўны спадар амбасадар!**

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" віншуе Вас, работнікаў амбасады і ў Вашай асобе латышскі народ з юбілеем – 85-мі ўгодкамі стварэння латышскай дзяржаўнасці. Беларусы і латышы маюць тысячагадовыя традыцыі ўзаемных культурных, эканамічных і палітычных стасункаў.

Мы добра памятаем увагу латышскага ўрада да беларусаў і іх культурных патрэб у 20-х гадах мінулага стагоддзя. Дастаткова толькі прыгадаць выпуск першай беларускай маркі, дзейнасць беларускіх школ і гімназіі і беларускага тэатра ў Рызе.

Мы спадзяёмся, што ў XXI стагоддзі гэтыя стасункі будуць умацоўвацца і квітнець.

**З павагай**

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

# Язэпу Лёсіку - 120



***Сёлета 120-ая гадавіна з дня народзінаў выдатнага беларускага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча Язэпа Лёсіка. Аднак наша дзяржава чамусь не хоча заўважыць гэтай падзеі, як не паруплілася заўважыць і юбілеі іншых слаўных беларускіх дзеячоў. Дзіўная дзяржава! Адно толькі некаторыя грамадскія беларускія суполкі ды нешматлікія газеты, не забыліся пра Лёсікаў юбілей. Так, Таварыства беларускай мовы з нагоды дня народзінаў Язэпа Лёсіка выдала прыгожы кішэнны каляндарык, а яшчэ раней клубам "Спадчы-на" ўсталяваны медаль у гонар Язэпа Лёсіка... і ўсё... ані радыё, ані тэлевізія хоць бы словам абазваліся, а Лёсікаў юбілей дае гэтулькі імпульсаў да развагі.***

*(Працяг тэмы на ст. 4.)*

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Пачалася падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на першае паўгоддзе 2004 года. Толькі ў нас вы знойдзеце ўсю інфармацыю па праблемах нашай мовы, нашай нацыі і нашых нацыянальных здабытках ды перспектывах. Толькі ў нас уся інфармацыя пра дзейнасць ТБМ. Толькі на нашых старонках можа выказацца кожны сябар ТБМ. Будзьце з намі!*

**Ф. СП - 1**

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865**
індэкс выдання

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Куды**
(паштовы індэкс) (адрас)

**Каму**
(прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету/часопіс **63865**
( індэкс выдання )

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 7500 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Куды**
(паштовы індэкс) (адрас)

**Каму**
(прозвішча,ініцыялы)

# Сённяшні нумар "Нашага слова" - 300-ты нумар, выдадзены ў Лідзе





Для Беларусі гэты погляд дакладней назваць, як ён гэтага заслугоўвае: ВЯЛІКАДЗЯРЖАУНІЦКІ. Не трэба ілюзій. Толькі такога адлюстравання трэба чакаць у падручніках гісторыі для школ і ВНУ таго этапу, які няўхільна набліжаецца.

Комплекс культурнай непаўнавартаснасці перад Масквою, які існуе ў беларускай гістарыяграфіі, прымерванне яе ўзораў на сябе надта небяспечныя.

У чым я асабіста бачу небяспеку расейскага дзяржаўніцкага погляду на гісторыю Расеі (а ў нашым выпадку на гісторыю Беларусі)? У заганнай ізаляцыяніцкай канцэпцыі разгляду яе гісторыі, нібыта як "збіральніцы зямель" – і расейскіх, а потым і іншых, нерасейскіх, як паступальнага развіцця Расейскай дзяржавы. Гэтая канцэпцыя адпавядала захопніцкім інтарэсам палітычных элітаў Расейскай і Савецкай імперыі – ад Таціўшчава і Карамзіна праз Салаўёва і Ключэўскага да іхніх эпігонаў з прозвішчамі, не вартымі ўпамінання з-за іхняй неарыгінальнасці, у савецкія часы і працягвае дамінаваць у выхаваных у "збіральніцкім" духу сучасных гістарыёграфаў Расеі. І гэта не гледзячы на тое, што практыка распаду СССР (і зусім верагодны працяг распаду Расейскай Федэрацыі – прыклады: Чачня, Татарстан са сваім асаблівым статусам суверэннасці і іншыя спробы не ў апошнюю чаргу рускіх рэгіёнаў адасобіцца ад цэнтру) прадэманстравала поўную негрунтоўнасць гэтай канцэпцыі. Жыццё абвергла гэтую канцэпцыю! Ляснуў "Саюз непарушны". Разам ягоных костак ужо не збярэш, як бы нехта ні намагаўся. Ужо калі літаральна на нашых вачах знікла з геаграфічнай мапы Паўднёваславія, абедзьве часткі якой населеныя народамі з адной моваю і адной вераю, дык што там ужо казаць пра шматэтнічны і шматканфесіянальны звяз зямель з народамі розных культур, які ўяўляюць сабою рэшткі былога СССР?

У гэтай канцэпцыі адсутнічае магчымасць параўнальнага аналізу развіцця Расейскай імперыі з іншымі шматэтнічнымі дзяржавамі і іхнім непазбежным распадам, гэта значыцца няўжыванне аднаго з асноўных метадаў гістарычнага аналізу – параўнальна гістарычнага метаду. Пакуль што ў падручніках па гісторыі Беларусі параўнальна-гістарычны метад ужываецца (праўда, за прыкладам адных толькі зямель Рэчы Паспалітай), ды ў Універсітэце культуры ў Менску Анатоль Пятровіч Грыцкевіч чытае студэнтам курсы гісторыі Летувы, Украіны, Польшчы (што я прапанаваў у сваіх артыкулах ці не дзесяць год таму назад). Пра іншыя ВНУ Беларуі я дадзеных не маю наконт падобных навучальных курсаў, таму пра гэта я пісаць не бяруся.

Але ж параўнання ў межах аднае Рэчы Паспалітай, на маю думку, недастаткова. Былі ж і іншыя шматэтнічныя дзяржавы (і цяпер некаторыя з іх існуюць): Іспанія, Францыя, Брытанія, Швецыя, Данія. У расейскай гістарыяграфіі не знайсці даследванняў з параўнаннем развіцця Расейскай імперыі ні з бліжэйшымі да яе Аўстра-Вугорскай і Асманскай імперыямі (мабыць, каб не псаваць сабе настрою песімістычнымі прагнозамі), ні з іншымі шматэтнічнымі дзяржавамі.

Другой ізаляцыяніцкай небяспекаю на мой пункт погляду можна лічыць прынцыповае адмежаванне ад тэндэнцый сусветанай гістарыяграфічнай думкі апошніх дзесяцігаддзяў (а мы здолелі ізалявацца нават ад бліжэйшых ад нас усходнееўрапейскіх, заходнеславяскіх кантэксаў, арыентуючыся выключна на расейскія) – ужывання іншых дысцыплінаў для пашырэння поглядаў на мінулае. Я маю на ўвазе недастатковае выкарыстанне ў гістарыяграфічных працах этналогіі, лінгвістыкі, сацыялогіі, гістарычнай псіхалогіі, гістарычнай антрапалогіі і інш. Бо гэтыя дысцыпліны разглядаюць доўга існыя структуры (скажам, этнас), а не структуры, абмежаванныя часам (скажам, саслоўе або клас).

Прашу прабачэння ў чытачоў за нясціпласць, але менавіта на пэўныя з гэтых навук я абапіраўся у памянёнай вышэй сваёй кнізе "Гісторыя і міфы" (баюся, што менавіта гэта адстрашыла ад яе маіх калегаў гісторыкаў, бо адзіны водгук у друку на яе падпісаны філосафам).

Але працэс выкарыстання сумежных, ды і не толькі сумежных навук у гістарыяграфічнай працы, як мне здаецца, у перспектыве развіцця гістарычнай навукі непазбежны. Выкарыстанне прыёмаў і метадаў сумежных дысцыплін дапамагло мне пры напісанні ранейшых кніг, пачынаюч з кн.: "Путешествия наших земляков" (Менск, 1968) і Адаму Мальдзісу, пачынаючы з ягонай кн.: "Падарожжа у XIX стагоддзе" (Менск, 1969), ды і нам абодвум у сумеснай кнізе "Шляхі вялі праз Беларусь" (Менск, 1980). Але названыя выданні ( і іншыя нашы працы, якіх я тут не назваў, каб не адцягваць увагі чытача іхнім пералікам) афіцыйнай гістарыяграфіяй не ўлічваліся, нібыта нешта, што знаходзіцца па-за яе абсягам. А мы з А. Мальдзісам, як і раней, працягвалі сачыць за агульнай тэндэнцыяй развіцця сучасных гістарыяграфіі і культуралогіі і надалей працавалі ў гэтым кірунку.

Трэцяе цесна звязана з другім. Гістарыёграфы заходніх краінаў усё больш увагі ўдзяляюць ужо не адным толькі глабальным падзеям гісторыі, але – у першую чаргу – жыццю асобных яе персанажаў. Тым больш, што ў XX стагоддзі менавіта іхняя дзейнасць асэнсаваная, як тая, што мае значны ўплыў на ходу падзей. Ад гісторыі дзяржаваў сучасная еўрапейская гістарыяграфія адыходзіць да прыватнага жыцця чалавека.

Усё больш у сучаснай гістарыяграфіі Захаду аналлізуюцца не столькі факты, колькі сведамасць людзей розных эпох. Даследванне сведамасці – сёння ці не галоўнае ў еўрапейскай і амерыканскай гістарычнай навуцы. Дарэчы, гэта старадаўняя традыцыя, бо гісторыкі Тацыт і Сектоній, апісваючы жыццё рымлянаў 1 стагоддзя н.э., асвятлялі ў першую чаргу змяненні менавіта ў сведамасці жыхароў свайго горада і імперыі. Мо і таму іх дасюль чытаюць?

Гісторыкі ці не з часоў Плутарха пісалі асобныя біяграфіі і зборнікі біяграфій асобных гістарычных персанажаў. Без стрыжнявой ідэі (як у таго ж Плутарха), а зараз і без разгляду гэтых біяграфій у рэчышчы сацыяльнай псіхалогіі, або гісторыі навуковых ці іншых падарожжаў, гісторыі інтэлігенцыі, гісторыі медыцыны і г. д. гэтыя жыццяпісы застаюцца ўсяго толькі жыццяпісамі. Зноў прашу прабачэння за сваю нясціпласць, але ж ці не Адам Мальдзіс і аўтар гэтых радкоў пачалі распрацоўваць з канца 60-х гадоў менавіта ТАКУЮ гісторыю не безыменных, абстрактных беларусаў, а канкрэтных асоб з акрэсленых пластоў грамадства ў кантэксце акрэсленай галіны культуры з асвятленнем менавіта іхняй сведамасці? Значыцца, і даўней можна было ствараць менавіта падобныя гістарыяграфічныя працы, гісторыю прыватнага жыцця чалавека. Канкрэтнага чалавека канкрэтнай эпохі. Як ён жыў, у якіх умовах, як харчаваўся, апранаўся, весяліўся, ездзіў па свеце, што занатоўваў для сябе і для іншых, як і дзе вучыўся, працаваў і г. д.

Таму ў кнізе А. Мальдзіса "Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры ХУШ ст. "(Менск, 1982; ёсць перавыданне 2001 г.) гісторыя побыту беларусаў разглядаецца праз біяграфіі асобных персанажаў пры дапамозе метадаў сацыяльнай псіхалогіі. Тое ж рабілася ў маёй кн.: "С фазелом Гиппократа" (Менск, 1987) на матэрыяле гісторыі медыцыны Беларусі праз лёсы асобных медыкаў.

Больш за тое. Ці не большую частку сваёй кнігі "История музейного дела до конца XYIII столетия" (СПб, 2001) я цалкам пабудаваў на разлядзе калекцый і ранейшых музеяў як раз праз біяграфіі іхніх стваральнікаў і толькі гэткім чынам здолеў, як мне здалося, дасягнуць сінтэзу тэндэнцый і кірункаў музейнай справы ў свеце.

І падобны кірунак стварэння далейшых даследванняў і падручнікаў гісторыі для беларускіх школ і ВНУ мне ўяўляеца натуральным і адпавядаючым сучаснай тэндэнцыі сусветнай гістарыяграфіі, у адрозненне ад той традыцыі, што засталася ў спадчыну ад расейскай і савецкай гістарыяграфіі.

Пераадольваючы гэты ізаляцыяніцкі падыход, аўтары і прац па гістарыяграфіі, і гістарычных падручнікаў здолеюць даць беларусам погляды на СВАЮ, а не на ЧУЖУЮ, НАКІНУТУЮ ЗВОНКУ гісторыю не залежныя ад дзяржаўных загадаў і ўстановак.

Наконт жа адзіных падручнікаў, на якіх настойвае міністр адукацыі Расеі і якія могуць прапанаваць і ў Беларусі, я прыгадаю, што сёння еўрапейцы задюць пытанне: ці ёсць у чалавека права на вольную гістарычную інфармацыю па аналогіі з правам на інфармацыю ўвогуле? Ці можа кожны грамадзянін мець сваю ўласную гісторыю ўласнай краіны? І як тады быць з агульнай гістарычнай памяццю дзяржавы, у якой ён жыве? Адназнакавых адказаў на гэтыя пытанні пакуль няма (хоць я асабіста схіляюся да станоўчага адказу). Існуе шматлікасць гісторыі і шматлікасць падыходаў да мінулага. А што да патрабаванняў аўтара прэтэнзій да падручнікаў па гісторыі, то ў сувязі з гэтым я мімаволі ўспомніў радкі Пушкіна пра аднаго свайго знаёмага, якога паэт зусім шчыра назваў "умным и любезным": "Ограниченность его желаний и требований поистине трогательна" (А.С. Пушкин. Путешествие в Арзрум // Соч. в трёх томах. – М.: Худ. Лит., 1986. – Т.3. – С. 406).

***Валянцін Грыцкевіч,***
***Ганаровы чалец Міжнароднай Асацыяцыі беларусістаў,***
***Ганаровы чалец Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына",***
***Чалец Беларускага цэнтру ПЭН-клубу,***
***Дацэнт кафедры музеязнаўства Санкт-Пецярбургскага універсітэта культуры і мастацтваў.***

***Роздум***

# Кірмаш рэгіянальны з абгорткай пад расейскі "капыл"

У той халодны, ветраны суботні дзень у Слуцку ладзіўся так званы рэгіянальны восенскі кірмаш з удзелам калгасаў, гандлёвых прадпрыемстваў, вытворцаў харчовай прадукцыі аж з сямі раёнаў Менскай вобласці, уключаючы і Слуцкі. На цэнтральнай вуліцы імя Леніна, на прылеглы да яе плошчах і завулках борт да борту зшыхтаваліся дзесяткі грузавікоў, гандлёвых шапікаў, ятак і проста сталоў, ля якіх зранку таўкліся тысячы слуцакоў, балазе цэны на гародніку і садавіну былі ніжэйшымі, чым на рынку і ў дзяржаўных крамах. Паўсюль дымелі жароўні для шашлыкоў, не праблемай было набыццё спіртавых напояў рознага мацунку. Гандаль аж да паўдня ішоў бойкі, жыхары горада з каляскамі, а то і проста – мех з бульбай, капустай на плячо - разыходзіліся на кватэрах.

Але мяне здзівіў не столькі добра адладжаны размах кірмашу (яшчэ б, прыехаў сюды сам міністр сельскай гаспадаркі Зянон Ломаць, які калісьці быў тут першым сакратаром гаркама КПБ), колькі яго рэкламная і цэнавая абгортка-спрэс расейскамоўная. Я спецыяльна абыйшоў літаральна ўсе грузавікі, шапікі, сталы з раскладзеным таварам і ўсюды вочы "рэзалі" цэннікі: "Кортофель", "Морковь", "Лук", "Свекла", "Рож", "Сало", "Клюква" і г. д. жанчыны з калгасных грузавікоў на ўвесь голас запрашалі пакупнікоў:

-Купіце картофель, разварысты, сорт "Рая", "Санта"!

- Нядорага – дзвесце рублей за кіло!

- Купіце маркоў – трыста рублей за кіло!

Хоць бы хто адзін на тых шматлікіх грузавіках, што прыехалі з Салігорскага, Любанскага, Капыльскага, Уздзенскага, Пухавіцкага, Старадарожскага, Дзяржынскага раёнаў вымавіў слоўца на роднай, беларускай мове – а ні –ні!

І калі б не тры чырвоныя перакінутыя ўпоперак вуліцы, транспаранты са словамі "Восенскі кірмаш 2003", напісаныя па-беларуску, заезджаму расейцу, які б не заўважыў іх і прайшоўся па гандлёвых радах, магло б здацца, што ён трапіў у сваю глыбінку, на Разаншчыну ці Тамбоўшчыну – так усё вакол у рэкламе было адладжана пад чужы " капыл" Хіба не ўдар у самае сэрца, у душу тых, хто яшчэ не адцураўся роднай мовы і не збіраецца пакуль выслухаць па ёй нахавальны звон? Толькі падумалася: а ёсць жа ў тых калгасах і саўгасах, адкуль прыехалі сюды грузавікі з таварам, школы, бібліятэкі, Дамы культуры, дзе працуе сельская інтэлігенцыя. Чаму ж яна не павярнулася тварам – хоць бы на адно імгненне – да такой задумкі, як афармленне хоць цэннікаў на гародніну і садавіну, што адпраўляецца на кірмаш?

Мусіць вельмі мала засталося ў вёсках і нават раённых цэнтрах энтузіястаў адраджэння беларускасці, у першую чаргу роднай мовы, пра што з горыччу гаварылі дэлегаты прайшоўшага нядаўна чарговага з'езду грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"

Не дзіва, што калі на цэнтральнай плошчы, паблізу будынка гарбібліятэкі пачалося выступленне сельскіх самадзейных калектываў у нацыянальных яркіх строях, з выкананнем беларускіх народных і сучасных песняў, прыпеўкаў, паслухаць іх прыйшло (з тысяч прысутных вакол людзей) не болей... трыццаці бабулек з сумкамі ды чалавек шэсць-сем пенсіянераў мужчын.

Маладых нават воддаль не было ні душы – юнакі і дзяўчаты з цыгарэтамі тоўпіліся ля шашлычных і вінных шапікаў. Не бачна было і прадстаўнікоў гарадской інтэлігенцыі, хоць канцэрт атрымаўся яркім, хваляўнічым, кранаючым душу такімі блізкімі сэрцу напевамі і працягваўся звыш двух гадзін. І ў гэтай абыякавасці "масаў" да ўсяго, што вызначае нас, як народ, праглядвалася застарэлая хвароба - адсутнасць нацыянальнай годнасці. Той самай, аб якой з горыччу пісаў у сваіх дзённіках за 1999 год на старонках часопісах "Полымя" вядомы пісьменнік Вечаслаў Адамчык: "У. Жырыноўскі ў інтэрвію ізраільскай газеце "Маарыў" пахваляўся: "Я ніколі не хаваў, што мой бацька быў яўрэй. Я ганаруся сваім бацькам. Яўрэі ў Расіі igралі асаблівую ролю..."

А хто з нас, беларусаў, пахваліцца, што ён кроў ад крыві, косць ад косці – беларус? І мы не толькі у Расіі, нават на роднай Бацькаўшчыне не іграем асаблівай ролі.

Што праўда, то праўда – хоць і горкая.

***Мікола Кутнявецкі, г. Слуцк.***



№ 43 (630) 19 ЛІСТАПАДА 2003 г. наша слова

Уладзімір Содаль

# Лёсікаў лёс

***...Беларусь, Беларусь!***
***Агнём імя тваё мне гарыць,***
***З песні ласкаю маткі нясецца,***
***Ясным слонцам у размове стаіць***
***І грымотай у гнеў раздаецца.***
***Бачу смуклую постаць тваю,***
***Як абраз усялюдскай пакуты...***
***Табе песні складаю, вяршую, пяю –***
***К табе сэрцам навекі прыкуты...***
***Сібір, 1914 г.***

Канец XIX – пачатак дваццатага стагоддзя далі Беларусі шмат саахвярных асветнікаў, дзяржаўных дзеячей, палітыкаў – Аляксандра Уласава, братоў Луцкевічаў, Вацлава Ластоўскага, Браніслава Тарашкевіча, Алеся Бурбіса, Аркадзя Смоліча, Алеся Цвікевіча, Зміцера Жымуновіча, Алеся Чарвякова. Сярод іх беларускім самаахвярным волатам быў і Язэп Лёсік. Ён прайшоў праз усе выпрабаванні расійскага імперскага і савецкага рэжыму: Неаднаразовыя арышты... Высылкі на Сібір.. Астрогі... І ўсё чаму? Бо прагнуў незалежнасці любай Беларусі, шанаваў яе самабытнасць. Але гэта некаму замінала, муляла, і Язэта Лёсіка, гэтак жа, як і ягоных пабрацімаў – аднадумцаў, таленавітых бяссрэбнікаў проста ўзялі і знішчылі.

Спытаецеся – хто і навошта? І дзеля чаго?

Падумайце і разважце пра гэта самі. Лёсік і ягоныя аднадумцы неслі родную мову, навуку і асвету, а іх абвяшчалі ворагамі народу і, як толькі маглі, на чым свет стаіць, бэсцілі, шальмавалі, кідалі іх у нязвыклыя жыццёвыя варункі. Той жа Язэп Лёсік, скажам, хацеў праз усё жыццё спазнаваць родную мову пісаць граматыкі для школ, а яго змусілі выкладаць у расійскій вучэльнях расейскую мову, пісаць расейскія падручнікі. Ці ж не здзек гэта? Добра, што Язэп Лёсік быў чалавек універсальны, пішучы расейскія граматыкі ён праз гэтую працу, праз параўнальны аналіз двух граматык глыбей спазнаваў ўсе асаблівасці роднай мовы, яе самабытнасць.

Заслугі Язэпа Лёсіка перад Беларуссю перад родная мовай неімаверныя. Яны выразна акрэслены ў экцыклапедычным даведніку "Беларуская мова". Згадаем колькі азначэнняў з гэтага выдання.

"У 20-я гады Я. Лёсік выкладаў беларускую мову на Менскіх лектарскіх курсах, у Белпедтэхнікуме. З 1922 г. правадзейны член Інбелкульта. Уваходзіў у склад акадэмічнай рады гэтай установы, рады аддзела гуманітарных навук, узначальваў інстытут навуковай мовы, працаваў на кафедрах гісторыі беларускай мовы, жывой беларускай мовы, уваходзіў у правапісную, дыялекталагічную камісіі і камісію беларускай літаратурнай мовы. У 1928 г. Я. Лёсік быў зацверджаны правадзейным членам Беларускай акадэміі навук. У Інстытуце мовазнаўства ён працаваў намеснікам дырэктара і ўзначальваў Тэрміналагічную камісію.

У гісторыі беларусай мовазнаўчай навукі Я. Лёсік пакінуў след як арганізатар і ўдзельнік мовазнаўчага жыцця ў 20-я гг., як аўтар шматлікіх навукова-практычных дапаможнікаў і навуковых прац па беларускай мове. Падручнікі Я. Лёсіка былі адным з самых пашыраных сродкаў навучання беларускай мове сярод розных груп насельніцтва. Яны неаднаразова перавыдаваліся (дапаможнік па правапісе, напрыклад, 8 разоў). У значнай ступені дзякуючы ім у савецкай Беларусі стала шырока выкарыстоўвацца правапісная сістэма беларускай мовы, зафіксаваная ў "Беларускай граматыцы для школ" (1918) Б. Тарашкевіча. Ад падручнікаў Я. Лёсіка, а таксама ад распрацаваных ім у 20-я гг. слоўнікаў лінгвістычнай тэрміналогіі ідзе сталая традыцыя выкарыстання ў беларускім мовазнаўстве многіх лінгвістычных тэрмінаў (***назоўнік, прыметнік, займеннік, лічэбнік, дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе, злучнік, прыназоўнік, выклічнік, выказнік*** і інш.)

Язэп Лёсік адным з першых у беларускім мовазнаўстве пачаў грунтоўна распрацоўваць пытанні нацыянальнай літаратурнай мовы. У нарысе "Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы" (1924-25), у "Граматычных нататках" (1927) і інш. публікацыях ён выклаў агульную канцэпцыю фармавання беларускай літаратурнай мовы, вызначыў свае адносіны да запазычанняў, дыялектызмаў, нарматыўнасці і інш.: "Літаратурная мова павінна быць морам, куды ўліваюцца народныя дыялекты. Як падобныя рэчкі гінуць у моры, падымаючы й асвяжаючы яго ровень, так народныя гутаркі павінны разыходзіцца ў літаратурнай мове, каб асвяжаць яе ды павелічаць яе глыбіню і шырыню" (Полымя, 1924 № 2 (10). С.195); "Літаратар, пісьменнік стылізуючы народную мову, мусіць заўсёды мець на ўвазе ды не спускаць з вока таго, ці пашыраны той ці іншым факт мовы ў шырокіх народных масах, каб не заблудзіць у паветалізмах, у малавядомых фактах. Бо толькі тая песня варта гарманізацыі і прыдзецца да густу шырокім колам грамадзянства, якая пашырана ў народзе ды адбівае пачуванні шырокіх мас... Моўны факт, становячы сабою вузкі паветалізм, нават трапна стылізованы, заўсёды рызыкуе забыцца, не прышчапіцца..." (Тамсама).

У гэтых жа працах Я. Лёсік упершыню сфармуляваў многія рэкамендацыі па культуры мовы, якімі беларускае мовазнаўства карыстаецца і сёння. Так, рускую канструкцыю ***что касается меня*** Я. Лёсік прапаноўваў перадаць пабеларуску ***як што да мяне, як на мяне***. Вучоны заўважаў, што ў беларускай мове прыналежнасць звычайна выражаецца прыметнікам: ***бацькава хата, матчына хустка.*** Ён звярнуў увагу на тое, што пры дзеясловах ***дзякаваць, выбачаць, дараваць, балець*** назоўнікі і займеннікі ўжываюцца ў давальным склоне: ***мне баліць галава, дзякую табе, выбачайце мне***. У працах Я. Лёсіка рэкамендуюцца як правільныя канструкцыі: ***захварэць на што, гэтымі днямі, вучыцца на каго, гадоў з дваццаць назад, у мяне ёсць*** (а не маюцца) ***грошы, ажаніцца з кім***. Вучоны звяртаў увагу на розніцу ва ўжываньні прыслоўяў ***зараз*** і ***цяпер***, прыназоўнікаў ***да*** і ***к***, першы распрацоўваў спосабы перакладу на беларускую мову рускіх дзеепрыметнікаў і інш.

Я. Лёсік займаўся таксама праблемамі правапісу. Яго першыя спробы рэгламентацыі беларускай мовы ў гэтай галіне адносяцца яшчэ да пачатку 1918 г., аднак найбольш вядома яго дзейнасць сярэдзіны 20-х гг. Лінгвіст быў ініцыятарам абмеркавання праблем, звязаных з удасканаленнем алфавіта і правапісу беларускай мовы. Пры яго актыўным удзеле ў 1926 г. была падрыхтавана і праведзена Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі, на якой ён выступіў з двума дакладамі – "Да рэформы беларускай азбукі" і "Да рэформы беларускага правапісу". Вучоны прапанаваў абазначаць



гукі ***дз*** і ***дж*** літарамі ***д̄*** і ***ж̄***, замест ***й*** увесці ***j***, на мест ***ы*** – ***и***. Я. Лёсік выступаў за паслядоўнае правядзенне фанетычнага прынцыпу для ўсіх гукаў, замацавання на пісьме поўнага акання і якання, за нязменнае напісанне злучніка ***і*** і прыназоўніка ***у***, незалежна ад таго, на зычны ці на галосны гук заканчваецца папярэдняе слова. Ён прапаноўваў адмовіцца ад абазначэння на пісьме асімілятыўнай мяккасці зычных.

Большасць выказаных Я. Лёсікам на канферэнцыі прапаноў падтрымкі не атрымала. Аднак многія яго арфаграфічныя правілы, прапанаваныя ў артыкулах "Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу" (1925). "Праект рэформы і стабілізацыі беларускага правапісу" (1929) і засведчаныя ў падручніках, былі рэалізаваны ў мовазнаўчай практыцы. Так, ён значна пашырыў і дэталізаваў правілы правапісу запазычаных слоў, вельмі коратка выкладзеныя ў граматыцы Б. Тарашкевіча. Першым з беларускіх мовазнаўцаў ён спецыяльна распрацоўваў правапіс складаных слоў. У падручніках і артыкулах Я. Лёсіка сфармуляваны (часта ўпершыню) правілы правапісу некаторых спалучэнняў зычных, беларускіх імёнаў, асобных выпадкаў ужывання вялікай літары, мяккага знака і інш.

Я. Лёсік займаўся таксама пытаннямі граматычнай нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы. Напрыклад, у сумеснай з А. Лёсікам працы "Да рэформы беларускага правапісу" (1926) ён прапаноўваў выключыць некаторыя выпадкі марфалагічнай дублетнасці, уласцівыя беларускай літаратурнай мове першай паловы 20-х гг. і зафіксаваныя ў граматыцы Б. Тарашкевіча. У працах па правапісе змешчаны некаторыя заўвагі вучонага па беларускай арфаэпіі.

З другой паловы 20-х гг. навуковыя зацікаўленні Я. Лёсіка не абмяжоўваліся рамкамі тагачаснай літаратурнай мовы. У 1928-29 гг. ён удзельнічаў у дыялекталагічнай экспедыцыі на Магілёўшчыну. У 1929 г. Я. Лёсік надрукаваў артыкул "Графіка, правапіс і мова ў тэстаменце кн. Саломерацкага і ў двух другіх дакументах з папер Саломерацкіх XYI ст." у якім даследаваў графіка-правапісныя, фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці трох юрыдычных дакументаў, напісаных у канцы 16- пачатку 17 ст."

На грамадскім і творчым рахунку Язэпа Лёсіка і аж дзве газеты. Ды якія! – "Вольная Беларусь" (1917-1918), "Беларусь" (1920). Ад сціплага памкнення "Нашай Нівы" заявіць, што мы ёсць, да заявы, што мы не проста ёсць, але і хочам быць вольнымі, незалежнымі, быць гаспадарамі сваёй краіны Гэтая ж думка трактуецца ў кніжачцы 1917 года "Аўтаномія Беларусі". Аўтар яе ніхто іншы, як усё ж той неўгамонна руплівы Язэп Лёсік з прынёманскай, коласавай Мікалаеўшчыны.

Язэп Лёсік таксама пісаў мастацкія творы. Яго пісьменніцкі талент быў заўважаны і высока ацэнены М. Гарэцкім, які асабліва вылучыў "Апавяданне без назвы" (1917-19). Я. Лёсік перарабіў на літаратурную мову і апублікаваў "Пінскую шляхту", а таксама пераклаў на беларускую мову празаічныя часткі камедыі – оперы "Ідылія" В. Дуніна-Марцінкевіча, фрагменты "Шляхціца Завальні..." Я. Баршчэўскага, "Маніфест камуністычнай партыі" і інш. творы. Уклаў некалькі літаратурных чытанак для школ.

Увасабляючы ў мастацкіх вобразах народныя тыпы, Я. Лёсік выкарыстоўваў у сваіх творах тыя моўныя сродкі, якія давалі магчымасць адлюстраваць народ-



ВЫДАНЬНЕ «ВОЛЬНАЕ БЕЛАРУСІ».

Я. Лёсік.

АЎТАНОМІЯ БЕЛАРУСІ.

Цана 20 кап.

МІНСК.
Друкарня Н. М. Нахумова.
1917.

ны светапогляд, сялянскую псіхалогію: прыказкі *(не радзіся красным, а радзіся шчасным; суджанага не мінеш, а што прамінула – не вернеш)*, устойлівыя параўнанні і параўнальныя звароты *(нарав́ілі, як скуле; лезеце як слата; гаспадарка, як Дунай)*, фразеалагічныя звароты *(прасіць на прамілы Бог, як гарох пры дарозе, стаць у прыгодзе, пры добрым гумары)*. Звяртаюць на сябе ўвагу шматлікія аўтарскія параўнанні, цесна звязаныя з вясковым побытам, прадметамі і з'явамі навакольнага жыцця: *народ валіў, як вада ў навальніцу; паважалі, не раўнуючы, як той бруд на трэсцы; Нёман ён ведаў, як гаспадыня ўласныя ночвы; зірнуў скрыва, як певень у люстру; абмяк, як кісель ад вады*. Пісьменнік актыўна выкарыстоўваў таксама мясцовыя словы і формы *(прастарэкаваць, мэрам, яха, длякацца, уз'ярытованы, верадаваць, урымсціць, сталачыць, судачкі, удыгаць; платэ, жанке, рыбаке, абразэ)*, ствараў наватворы *(апавядаўца, запытаўца, абразнік той, хто каго-небудзь абразіў, назірач)*.

І от такога самаахвярнага руплііўцу пазбаўляюць радзімы, мажлівасці працаваць і жыць у роднай мове, працаваць на яе росквіт І пасля нехта яшчэ дзівіцца: чаму гэта беларусы выракаюцца роднай мовы?

Язэп Лёсік быў не адзіны, каго пазбавілі жыцця за родную мову, за іхняе шчыраванне. Яму адно заставалася пакуль жыў на выгнанні на чужбіне сны ў роднай мове. Такі ж лёс напаткаў і ўсю Лёсікаву сям'ю малодшая Лёсікава дачка Алеся згадвае: "У 1931 годзе мне было 7 гадоў. Што я магла запомніць? Шкада, што ў Менску ўсёй сям'ёй жылі вельмі мала. Зімою маці адвяла мяне ў школу. Там ужо вучыліся Люця і Юра. Настаўніцу звалі Міліцыя Фёдараўна. У другім класе настаўніца пасадзіла мяне за асобную парту, а дзецям тлумачыла, што мяне хутка выганяць са школы, бо Лёсік Язэп, мой тата, - "вораг". Цяжка было ў школе, таму я вельмі радавалася, калі мы ад'язджалі. Мама і бабуля плакалі, а мы з Люцяй былі рады. Юрка заставаўся ў Менску, у Коласа. Тата, добра ведаючы, што на Беларусь нам не вярнуцца, хацеў, каб хоць сын не забыў роднай мовы.

Мы жылі ў Нікалаеўску (гэта праз Волгу ад Камышына). Ссылка наша была ў Камышыне, але там не было работы, і НКУС дазволіў пераехаць у Нікалаеўск. Тата выкладаў рускую мову і літаратуру ў педвучылішчы. Усе студэнты вельмі любілі яго, многія гады пісалі добрыя лісты.

У трэцім класе я не ведала ніводнага слова парускі. Вось тут руская мова стала нашай і дома, і ў школе. Тата вельмі любіў байкі Крылова, чытаў нам іх на памяць, а ён чытаў цудоўна, у яго быў дар слова, вучыў і нас выразна чытаць. Цяжка давалася выгаворваць ***"грязь"***, таму практыкаваліся доўга. За год я авалодала рускай мовай і пачала вучыць граматыку. Кожны дзень пісалі з мамай дыктанты, чыталі ўслых, пераказвалі і ... забывалі Беларусь.

Гэта праўда"...

***Язэп Лёсік не толькі вучоны. У свой час ён прымаў актыўны ўдзел у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі, быў адным з стваральнікаў Беларускай сацыялдэмакратычнай партыі.***

***На жаль, сучасныя беларускія кіраўнікі не пачуваюць сябе палітычнымі спадчыннікамі сваіх папярэднікаў. Паміж імі гістарычная пустка, прорва. Але нічога: міне час і прыйдуць да кіраўніцтва краінай людзі; якія перастануць сячы сук, на якім сядзяць. Яны належна ўшануюць усіх нашых самаахвярнікаў, якія церабілі шлях да незалежнасці. Адным з якіх, як вядома, быў і Язэп Лёсік.***

# Беларускамоўная песня, лагічна высокі рэйтынг у Еўропе

15 лістапада ў Даніі прайшоў фінал дзіцячага конкурсу Еўрабачання. Сёлета Беларусь дэбютуе на Еўрабачанні і ў конкурсе для дарослых, а сярод дзяцей нашую краіну рэпрэзантавала 10-гадовая **Вольга Сацюк** з Кобрына. Вольга выконвала беларускамоўную кампазіцыю "Танцуй". Конкурс ішоў у жывым эфіры. У жывым жа эфіры адбывалася галасаванне тэлегледачоў з краін удзельніц. Вынік галасавання азадачыў нават беларускіх каментатараў. Еўрапейцы заўважылі нашую Вольгу і пачалі ставіць высокія балы. А тэлегледачы Польшчы паставілі беларусцы найвышэйшы бал - 12. Вольга заняла ў агульным заліку 4-е месца пасля Харватыі, Іспаніі і Вялікабрытаніі. Поспех выключны, асабліва калі згадаць леташні поўны правал расейскага гурта "Прэм'ер-міністр". Адным з фактараў, якія садзейнічалі поспеху, было паўнагалоссе беларускай мовы. Памножанае на талент Вольгі, яно і дало поспех.

***Сакратарыят ТБМ, Рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць юную беларусачку з сапраўднаю перамогаю, у тым ліку і з перамогай беларускай мовы.***

# Першы раз у новым складзе

Адбылося першае пасля з'езду паседжанне сакратарыяту. Найперш віншавалі новых сяброў. Сярод іх — Дзяніс Тушынскі, які прапанаваў сістэматычна абнаўляць сайд Таварыства. Таццяна Вабішчэвіч пагадзілася ўзначаліць арганізацыйную камісію. Абавязкі Уладзіміра Кошчанкі пакуль не акрэслены. Былі падведзеныя вынікі VIII-га з'езду ТБМ. Адбылося першае абмеркаванне плана работы на наступны год. Аднагалосна была падтрымана прапанова аб выданні кішэннага каляндарыка і плаката на 2004 год, прысвечаных юбілею Васіля Быкава, 80-годдзю ад дня яговых народзінаў. Разглядаліся заявы на ўступленне ў ТБМ. У шэрагі Таварыства было прынята 14 новых сяброў.

Гэтае паседжанне сакратарыяту адметнае тым, што на ім сябры віншавалі Людмілу Дзіцэвіч з Днём народзінаў. Як ужо вядома чытачам "Нашага слова", першы намеснік старшыні Таварыства адзначыла свой "залаты" юбілей. Людміла Дзіцэвіч належыць да той кагорты грамадскіх дзеячаў, якія сёння рэальна будуюць новую Беларусь. Яна — у пастаянным пошуку новых падыходаў у працы Таварыства.

Мастак Аляксей Марачкін, які прысутнічаў на паседжанні сакратарыяту як госць, прыгадаў такое: "Я сустрэў Людмілу ў трамваі. Яна - на той час яшчэ студэнтка - чытала часопіс "Маладосць". Разгаварыліся. Добрая беларуская мова маёй суразмоўцы, эрудыцыя яшчэ ў той час падказалі мне, што гэтая студэнтка зможа дасягнуць значных поспехаў ў жыцці. Інтуіцыя не падвяла. Прайшло 30 гадоў, і я сустрэў яе - актыўную грамадскую дзеячку, педагога, прыгожую жанчыну — у Таварыстве". Мастак падарыў Людміле свой твор і праспяваў для яе народную песню. Святлана Багданкевіч прачытала верш, прысвечаны спадарыні Дзіцэвіч. Праца першага намесніка кіраўніка ТБМ была адзначана вышэйшай узнагародай Таварыства — Падзякай, якую разам з букетам любімых Людміліных кветак хрызантэм уручыў старшыня Алег Трусаў.

Шмат шчырых пажаданняў, цёплых слоў было выказана ў гэты вечар. Спадзяёмся, што добры ўспамін пра гэтае незвычайнае паседжанне яшчэ доўга будзе сагараваць спадарыню Дзіцэвіч, якая лічыць сяброў сакратарыяту ТБМ сваёй другой сям'ёй.

***Тамара Грузнова.***



*Віншаванне для Людмілы Дзіцэвіч*

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**ПРАЦЯГВАЕ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца 21, 26 і 27 лістапада ў 18.00 у сядзібе ТБМ на адрасе: вул. Румянцава, 13***

**21 лістапада.** Перад прысутнымі выступіць вядомы беларускі пісьменнік **Кастусь Тарасаў**, які распавядзе пра Менскія ваколіцы і Менск у часы сталінскіх рэпрэсій

**26 лістапада.** "Гісторыя ўзнікнення палітычных партый і рухаў у Менску" - кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан.

**27 лістапада.** Перад прысутнымі выступіць кандыдат гістарычных навук **Аляксей Кароль**, які распавядзе пра беларускія партыі і рухі ў Менску

**Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.**

**Спадару А. М. Радзькову**
**Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь**
**220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 9**

**Паважаны Аляксандр Міхайлавіч!**

Як вядома са сродкаў масавай інфармацыі, у Беларускім дзяржаўным універсітэце ажыццяўляецца выдача студэнцкіх білетаў новага ўзору. Нас вельмі здзіўляе і непакоіць той факт, што на бланках білетаў, зацверджаных Міністэрствам адукацыі, звесткі пра студэнтаў і іншая інфармацыя друкуецца выключна на рускай мове. Думаецца, што адміністрацыя БДУ робіць гэта з уласнай ініцыятывы, а не са згоды студэнтаў. З гэтай нагоды мы зрабілі запыт (копія дадаецца). У адказ на наш ліст першы прарэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта прафесар А. А. Яноўскі патлумачыў, што цяжкасць выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы пры вырабе электронных дакументаў мае чыста тэхналагічны характар і выклікана тым, што сучасныя сеткавыя аперацыйныя сістэмы кіравання базамі дадзеных, распрацаваныя за мяжой, дрэнна адаптаваныя для выкарыстання беларускага алфавіту. А для дапрацоўкі праграмнага забеспячэння, якое выкарыстоўваецца падчас вырабу студэнцкіх білетаў і яго суправаджэння, нібыта неабходна выдзяленне дадатковых фінансавых сродкаў.

Не можам з гэтым пагадзіцца, таму што менавіта ў БДУ на кафедры матэматычнага забеспячэння аўтаматызаваных сістэм кіравання пад кіраўніцтвам прафесара І. В. Соўпеля некалькі гадоў таму распрацаваны эфектыўныя прамысловыя сістэмы аўтаматычнай апрацоўкі тэкставых дакументаў, а менавіта:

- карэктар тэкстаў беларускай мовы, які адпавядае Microsoft Word;
- сістэма аўтаматычнага рэферавання тэкстаў беларускай і рускай моў;
- сістэма беларуска-рускага і руска-беларускага машыннага перакладу.

На жаль, гэтыя сістэмы не ўкараняюцца, як у самім БДУ, так і па ўсёй краіне. Каб пазнаёміць Вас з распрацоўкамі, зробленымі ў гэтай навучальнай установе, дасылаем кніжку "Беларуская мова. Інтэрнет і камп'ютэр".

Паважаны Аляксандр Міхайлавіч, просім Вас прыняць адпаведныя захады па спыненні дыскрымінацыі прадстаўнікоў беларускамоўнай супольнасці ў БДУ і іншых навучальных установах краіны і прадухіліць, тым самым, парушэнне артыкула 14 Канстытуцыі, у якім сказана: "Дзяржава рэгулюе адносіны паміж сацыяльнымі, нацыянальнымі і іншымі супольнасцямі на аснове прынцыпаў роўнасці перад законам, павагі іх правоў і інтарэсаў". Просім Вас забяспечыць прынцып роўнасці ў адносінах да студэнтаў, якія лічаць сваёй роднай мовай беларускую, і кіравацца Сусветнай дэкларацыяй лінгвістычных правоў, у артыкуле 17.1 якой гаворыцца, што кожная моўная супольнасць мае права мець у сваім распараджэнні або атрымліваць на сваёй тэрыторыі любыя неабходныя дакументы (як на паперы, так і на магнітнай стужцы або іншым матэрыяле), складзеныя на мове дадзенай супольнасці.

**З павагай**
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў.**

## ЗЯМЛЯ НАШЫХ ПРОДКАЎ

Цудоўная прыгажуня Беларусь з гістарычнымі старажытнымі гарадамі, паселішчамі, помнікамі, замчышчамі. Ці то Гарадзенскай, Гомельскай, Берасцейскай, Віцебскай, Магілёўскай, Менскай вобласці. Свая натуральная прыродная прыгажосць. Найбагацейшая фальклорная спадчына, рэгіянальныя гаворкі, абрады, песні, танцы, што ні край, то свой рэгіянальны звычай. Добра, што шануюць іх і перадаюць з пакалення ў пакаленне.

Вось і на ўспетай зямлі палешукоў, дзе епіскап Кірыла Тураўскі чытаў свае сусветнаведомыя, малітвы, мо таму людзі на Палессі асаблівыя, руплівыя, здольныя па-мастацку вобразна адчуць подых зямлі, шануюць народныя традыцыі. На Тураўшчыне шмат фальклорных гуртоў, народных калектываў якія нясуць бесцэнны дар фальклорнай скарбонкі і перадаюць ласкава і беражліва, як самае дарагое, з часоў Кірылы яго нашчадкам-дзецям.

Так у Тураве на базе Дварэцкага СДК створаны тэатр фальклору, "Дрыгавічы" і першая праграма; "Нашчадкі Кірылы", у якой занята больш, як трыццаць дзяцей. Першая частка прадстаўлення пабудавана на гістарычным матэрыяле Тураўшчыны, тэма другой часткі "Зберажэм народныя традыцыі" і заключная частка - прадстаўленне аб памяці і продкаў. Дзеці вельмі вобразна і з вялікімі імпэтам перадаюць часы міжвечча ў пластыцы, слове, песні, танцы, музыцы.

Ідэю тэатра падтрымала кіраўніцтва Жыткавіцкага райвыканкаму, Тураўскага Савета дэпутатаў, школы.

Кіраўнік селянскай гаспадаркі Шруб Міхась Рыгоравіч дапамог набыць строі і тэатральную бутафорыю.

Тэатр фальклору "Дрыгавічы" мае намер радаваць вясковага гледача ў клубах і выходзіць з паказам на Тураўскую зямкаву гару, адкуль магутны помнік свяціцелю Кірылу Тураўскаму глядзіць на прыгожую року Прыпяць.

Ініцыятыва стварэння і ідэя метадычнай і практычнай дзейнасцю тэатра належыць супрацаўнікам навукова-даследчай лабалаторыі беларускага фальклору БДУ.

***Мікола Котаў.***

## "Чуюцца, чуюцца восені чары..."

У сярэдняй школе № 5 г. Полацка сярод вучняў 4-7 класаў прайшоў конкурс чытальнікаў пад назвай "Чуюцца, чуюцца восені чары...", прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэнння выбітнай беларускай паэткі-эмігранткі Наталлі Арсенневай. На працягу гадзіннай імпрэзы вучні пазнаёміліся з біяграфіяй паэткі, паслухалі яе пранікнёныя радкі, прысвечаныя восеньскай пары і самі прачыталі вывучаныя на памяць творы. З біяграфіі Арсенневай дзяцей найбольш прывабіў той факт, што беларускую мову яна ўпершыню пачула і ўпадабала не так далёка ад Полацка, на Верхнядзвіншчыне, у вёсцы Жоўніна, дзе разам з сям'ёй правяла чатыры месяцы па дарозе з Яраслаўля ў Вільню зімой 1918-1919 гг. Цудоўныя лірычныя радкі Арсенневай гучалі з дзіцячых вуснаў узвышана і светла, узнёсла і святочна. Пераможцы – а вызначалася першае, два другіх і тры трэціх месцы – атрымалі ў падарунак ад Полацкай арганізацыі ТБМ кніжкі беларускіх аўтараў і нумары газеты "Новы час".

***Алена Красоўская.***

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*Ад рэдакцыі.*

***Многія этнасы маюць свае вершаваныя эпасы і хронікі. Ува ўсіх іх розны працэнт гістарычнасці і розны працэнт мастацкасці, як у "Махабхараце", "Сказанні пра Манаса" ці "Хроніцы Лівоніі". Ёсць такі паэтычны твор, што ахоплівае значны гістарычны адрэзак часу, і ў беларусаў. Два гады таму рукапіс яго перадаў у рэдакцыю "Нашага слова" Уладзімір Арлоў. Мы не спяшаліся з публікацыяй гэтай аб'ёмнай працы, але ў беларускім грамадстве не знікае цікавасць да нашай гісторыі, і мы лічым, што нашыя чытачы маюць права пазнаёміцца і з вершаванай версіяй яе. Рэдакцыя не бярэцца ацэньваць ні гістарычнасць, ні мастацкасць твора. Мы спадзяёмся, што гэта зробяць і гісторыкі, і літаратары пасля публікацыі.***

### ПРАДМОВА

Работа "Шлях" уяўляе сабой спробу мастацкімі паэтычнымі сродкамі кранушца пэўных рыс беларускага нацыянальнага духу, што пакінулі сляды ў гісторыі. Пад названым аб'ектам даследавання аўтар разумее канкрэтную філасофскую катэгорыю – беларускі дух, які для яго ёсць усё, што звязана з разумовай сферай, што мае мясцовую нацыянальную адметнасць. Ён разглядаецца ў рабоце праз так званыя "беларускія выспы" – партрэты гістарычных асоб, творы, прысвечаныя нашаму менталітэту, сацыяльнай псіхалогіі, рэлігійнаму жыццю, паказваецца праз уздзеянне твораў культуры на грамадскі розум, даносіцца ў пачуццях, эмоцыях, перажываннях удзельнікаў гістарычнага працэсу. Усё гэта мае мэтай высветліць духоўную сутнасць беларускага этнасу, яго асаблівасцяў, як непаўторнай з'явы жыцця.

"Шлях" патрабаваў паэтычнай мовы для адлюстравання духу народа, у жыцці якога мела такое месца менавіта паэзія. Тая тонкая матэрыя, за якую аўтар узяўся, вымагае асаблівых, уважлівых слоў – іх зрэдчас не стае сухой акадэмічнай мове. Гэта свядомая спроба пазбягання рэгістрацыйна-канстатацыйнай манеры выкладання гістарычнага матэрыялу і напаўнення яго жывым дыханнем і кроўю, якая, аднак, не пераступае мяжу стварэння мастацкай літаратуры, застаючыся на баку псіхалагічнай публіцыстыкі.

"Шлях" мог бы прынесці значную карысць пры выкладанні і вывучэнні нацыянальнай гісторыі, як школьнікам са студэнтамі, так і выкладчыкам-лектарам. Наогул, думаецца, што ён зацікавіў бы ўсіх, каго шчыра хвалюе беларуская спадчына. Тым больш, што ў намеры аўтара ўходзіць давесці працу (у 2-й частцы) да нашых дзён.

Аўтар – паэт, які мае літаральна некалькі надрукаваных вершаў і піша большай часткай у стол. Да сваёй хваробы, звязанай са стратай слыху, ён выкладаў гісторыю Беларусі і беларускай культуры, працуючы дацэнтам кафедры беларусазнаўства Віцебскага тэхналагічнага універсітэта. Тут ён шчыра захапіўся занядбанай беларушчынай і прагне ўнесці свой уклад у яе адраджэнне, тым больш, як ураджэнец Віцебска – горада, які найбольш праславіўся сваімі "славянамі-інтэграстамі". У навуковай дзейнасці яго найбольш цікавіць даследаванне беларускага менталітэту ў гістарычным аспекце. На гэтую тэму ў яго выйшлі некалькі вялікіх артыкулаў у рэспубліканскіх выданнях.

## І. РУСЬ

### 1. ДЗЕДЗІЧЫНА
(паэма)

Панавыдумвалі ж дзяды
Свае дзівосы, карнавалы,
Пра агнявы кірмаш Купалы,
Аб белым футры Каляды.

І ў натхнёнай мітусні
Чаго ты, мроя, ні ўтварыла!
Вось так і бачыш тут Ярылу
На белым сонечным кані.

Плывуць між хуткіх хваль вянкі,
Кавалачкі надзеі палкай.
А нехта бавіцца з русалкай
На сонным беразе ракі.

О, колькі часу ад таго...
Да сёння продка дух лунае.
Расцвечана зямля жывая
Дзіцячым розумам яго.

Ёй хмелю гэтага і ў сне
Паўнейшай не нап'ецца чашай.
Пра нас жа пэўна не адкажа
Пасля – былі мы тут, ці не...

* * *

Як бы знарок, на ўсёй зямлі
Тады не так цвіла прырода.
І фарбы ейныя прыгоды
Фантазій-мрояў пачалі.

Яны і на Парнас-гары
Нашэптвалі Тараса музе.
З паганскіх межаў Беларусі
Прыйшлі паэты-песняры.

Там маладзейшыя кругом
Глядзець у лес ішлі нясмела,
Як ноччу папараць гарэла
Вядзьмарскім трапяткім агнём.

Іх жах лавіў з любым карчом,
Імгненным холадам акоўваў,
Калі рука лесавікова
Кранала лёгка за плячо.

Ой, сачынялі ж пад выццё
Пургі і лісця мяккі шолах.
Без баек рознакаляровых
Жыццё было ім – не жыццё.

Жадалі прагна ад яго
Хвілін прыгожых і цікавых,
Каб незабыўна працякалі,
Выходзячы аж з берагоў.

* * *

Дурнела нават галава,
Калі русалка лезла ў лодку.
Яскрава і любоўна продка
Цікаўны розум маляваў.

Вось, можа, толькі духам злым
Ён пакідаў скорагаворку.
Развітваўся, як з доляй горкай
З якім паскуднікам благім.

Бо не любіў такі цяжар –
Ствараць страшыдлаў і пачвар,
І мелі розныя істоты
Той самы чалавечы твар.

Ах, гора-дзеці, землякі,
Вы нават з Велесам калматым
Былі амаль запанібрата,
Як усяроўна сваякі.

Бо разам мёд пілі і квас –
Не спатыкалі душы лютасць.
Пазней святыя вашы будуць
Сябрамі гэткімі ж для вас.

Адзіны род, адна сям'я.
І звала нейкая патрэба
Праз каласы тваё да неба
Цябе, сялянская зямля.

* * *

Без розных чортавых падзей,
У полі ці на агародзе –
Амаль да вечара праходзіў
У духаў дзень, як у людзей.

Вось дамавік – не змей, не цмок,
З адной з ім нават елі міскі.
Быў справядліва сэрцу блізкі
Утульны хатні наш бажок.

Да спраў усякіх не сляпы,
Сам гаспадарлівай пароды,
Сямейнік добры, ён заўсёды
У хаце сварак не любіў.

Злаваўся, распускаў язык,
Як сустракаў пад лавай смецце.
Але і ў вэрхал ліхалецця
Не пакідаў нас, працаўнік.

А дамавічкі – чорт іх вёў –
Дык забаўляліся бясконца
І заляцаліся да хлопцаў,
Сваіх суседзяў-юнакоў.

Вось так старанна аб усіх
Яны, дзяды, успаміналі –
Чым шкодзілі, як выглядалі.
Ці мелі дзетачак малых.

* * *

Вакол не разлівалі зло
Ні іх бяскрыўдныя замовы.
І ў іх спагадлівае слова
Амаль для кожнага было.

Прынамсі, цёплым пачуццём
(Не паляўнічыя, не суддзі!)
Русалак шкадавалі людзі,
Навек разлучаных з жыццём.

Ды гаварылі між сабой,
І добра разумеў усякі:
Не проста выюць ваўкалакі –
Па хаце моляцца сваёй.

Наш нораў з цеплынёй жылля.
Напэўна, духам спадабаўся.
Сам лесавік для нас стараўся –
Дзяцей ён іншы раз люляў.

І яву поўніла, і сны
Суседзяў гэтакіх патоля.
Як іншыя браты, ніколі
Не расчароўвалі яны.

* * *

Зноў пешчу зрокам маладых –
Шчаслівых,
ледзьве не крылатых.
Прыходзіла кахання свята
У ноч купальскую да іх,

У летні радасны прасцяг.
Як бы на сырадою хвалях
Там варажылі ды спявалі
І мары песцілі жыцця.

Дзяўчыну хлопец ды яе ж
Каранаваў вянком вільготным.
Так на паганскай мове роднай
Гучаў яго каханай верш.

Азораная ўся агнём,
Гуляла моладзь шматгалоса.
Пасля папы цвярдзілі злосна
Пра чортавы яе садом.

Ды гэта, ведаем – хлусня.
Як бы крыніцы напрадвесні,
Купальскія бруілі песні,
Цнатлівая іх чысціня.

Дарэмшчынай не закрані
Ні той вячэрні шэпт нясмелы,
Ні стройныя каханак целы,
Дрыготкай поўныя крыві.

* * *

А свет вучыў. І – лёс такі –
Здавалі цяжкія іспыты
Няўрымслівыя следапыты
Мае старыя землякі.

Каб не палохаў кожны гад
І добра бачыліся нетры,
Патрэбны быў вось, як паветра,
Цаглінак свету стройны лад.

Ды віраваў над галавой
Сумбур загадкавых законаў.
І процьма прымхаў, забабонаў
Валодала душой любой.

Штодзень увесь дрымучы век
Да хат падкрадваліся цені,
Але не падаў на калені
Бездапаможна чалавек.

Калі нядобры нораў збіць
У іншай меліся страшылы,
Умеў тады з нячыстай сілай
Наш прашчур годна гаварыць.

Не, не пудовым кулаком,
Не зубра постаццю суровай –
Адною ў вока біў замовай.
Ён трохі быў чараўнікам.

* * *

І марыў продак кожны раз
Аб вечнай згодзе з цэлым светам,
Нябачнай сілаю сагрэтым
І моцна дбаючым пра нас.

Ён ведаў гэты неспакой.
З ім сонца раненька ўставала
Сваім з'ядноўчым харалам,
Вышэйшай праўдай над зямлёй.

Тады ж у кожнай галаве
Была ў ім існага вяршыня.
Так верылі, мой край, грашылі
Сонцапаклоннікі твае.

Зялёным сном сачыўся мох,
Свяцілася блакітам неба.
І не прыходзіла патрэба
У тоўстых сценках чатырох.

Адкрытая мо ўсім вятрам,
Хмялела галава ад пахаў...
Свабоды і прасторы прагнуў
Дравідскі незвычайны храм.

* * *

Паўсюдна заплятаў гушчар
Свае зялёныя Сафіі.
Жыцця п'янячаю стыхіяй
Ведыйскі дух нас прычашчаў.

Ён так будзіў, штурхаў паліў –
Ніхто не ведаў з ім спакою.
Адной сусветнай талакою
Быў дзень працоўны на зямлі.

Нямарна звалі каласы,
Павольныя святла іх рухі.
Свяшчэннадзейнічалі рукі,
Узносіліся галасы.

І мову меў такі цяжар
З адзіным клопатам заўсёды.
Замовы, песні, карагоды
Гукалі шчыра на ўраджай.

Так сэрцу крылаў не стае,
У звыклым нам яго запале
Не працавалі – святкавалі
Калісьці родзічы мае.

* * *

Было такое і не раз –
Не верылася ў пылу смецце,
Калі выходзілі суседзі
На шлях няведамы ад нас.

Мо, звала даўняя карысць
Да пазачаснага сакрэту,
Ці прытамляліся ад свету –
Хацелася ім адпачыць.

Выходзілі, мо хто раней,
Ды як бы дзеля вызвалення.
Напэўна, клопатаў пямёней
У нейкай іншай старане.

І свабаднейшымі за ўсіх
Былі дзяды на небасхіле.
Ды да таго ж яшчэ жывілі
Там нашыя ўспаміны іх.

Вярталіся да хат з імглы
На кліч журботны. Нават часам
Садзіліся лагодна разам
З жывымі намі за сталы.



*Спявае Віленшчына*

# Ад Беларусі не адрачомся !...

Згодна з традыцыяй, "Згуртаванне беларускіх арганізацый у Летуве і Суполка беларусаў у Панявежысе наладзілі на пачатак школьнага году Свята беларускай песні "Панявежыс 2003".

Гэтае, у пэўным сэнсе унікальнае свята культуры адбылося ў прасторнай зале панявежскай сярэдняй школы № 3 . На гэты фестываль прыбылі: музыкальна-харавая група "Сябрына" з Вільні, калектыў "Чараўніцы" суполкі беларусаў "Крыніца" з г. Клайпеды, творчы калектыў з мястэчка Шальчынінкеляй, Салечніцкага раёну –"Вісічанка", творчы калектыў "Світанак" – Беларускага культурнага цэнтра "Крок" г. Вісагінас і народны ансамбль народнай песні "Бераставіцкія музыкі, Гарадзенскай вобласці (Беларусь) з выдатным кіраўніком Юшкевіч Марыяй.

Пры запоўненай да апошняга месца прасторнай зале дакладна ў вызначаную гадзіну (16.00) распачалася афіцыйная праграма. Прысутнічалі паважаныя госці: паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь – Уладзімір Гіляравіч Гаркун, віца –мэр горада – Пятрас Луоманас, працаўнікі амбасады ды іншыя шаноўныя госці з Шяўляя, Вісагінаса, сталіцы краю і Панявежыса.

Спраўна запрацавала добрая абслуга радыё і тэлевізіі. Адкрыў урачыстасць папулярны оперны спявак, прэзідэнт Згуртавання беларускіх суполак Летувы – Лявон Мурашка.

Цёплымі словамі павіталі прысутных удзельнікаў і гледачоў пасол Ул. Гаркун, а таксама віца-мэр горада. Яны падкрэслілі задаваленне з трывалых і сяброўскіх суадносін нашых народаў – беларусаў і летувісаў, а таксама цеснага супрацоўніцтва нашых культурных арганізацый і трывалых кантактаў у мастацкіх сферах нашага суседскага жыцця.

З кароткай прамовай выступіў сп. Мурашка, які ўжо нямала гадоў паспяхова вядзе культурна-грамадскую працу адраджэння не толькі добрых суадносін з гаспадарамі ўсяго Краю, але і жывымі кантактамі з замежжам. Прыкладам гэтага з'яўляецца і сённешні прыезд цудоўнага Бераставіцкага народнага музыкальна-харавога ансамбля – "Бераставіцкія музыкі"

Першым нумарам было выступленне "Віленскай "Сябрыны", пад прыязным кіраўніцтвам Валянціны Кавальчук, якая нажаль настолькі перагружана працай, што даўно не выступае ў сваім цудоўным "Солё", рэдка спатыканым лірычным, у душу западальным голасам. Прывычна загучалі пад акампаніментам акардэёна адшліфаваныя народныя песні, загучалі воплескі задаволенай публікі. Гэты жаночы хор, амаль усе гады свае дзейнасці працуе, без мужчын. Аднак не шмат на гэтым страціў. Гэта даказала бурная падтрымка гучных воплесаў.

Артысты мяняюцца. На сцэну выходзяць "Чараўніцы" з Клайпеды. Не гледзячы на замену артыстаў і нязначныя шарахаватасці, публіка ўспрыняла народныя песні і малады (без вялікага стажу) хор прыхільна і цёпла.

Чарговы музычны гурт амаль цалкам з падлеткаў, выканаў не малую колькасць песень і сцэнак, характэрных арыгінальнасцю. Гэтая самая маладая група будучых артыстаў, з невялікага пасёлка Шальчынінкеляй, недалёка ад Салечнік, звяртае ўвагу на энтузіязм мастацка таленавітай моладзі. Іх творчасць прыдзецца шліфаваць, але таленты, бясспрэчна, будуць артыстамі!

Карыстаючы з маленькай паўзы, сп. Мурашка адчытаў тэлеграму-прывітанне ад Генеральнага дырэктара Дэпартаменту нацыянальных мяншынь – Пятраўскаса, які ўважліва пaглядае на адраджэнцкі рух беларусаў ды іншых мяншынь багатай нацыямі сённяшняй Летувы. У адказ громам загучалі воплескі.

Як бы заахвочаныя гэтым, выйшлі на сцэну фаварыты - творчае згуртаванне "Світанак" з Вісагінаса. Нягледзячы на страту Святланы Антанян, якая эміграваля ў Амерыку і тое, што "Світанак" застаўся з адзінай музыкальна-харавой-адзынайнай кіраўнічкай Людмілай Віткоўскай, добра напрацаваны таночна-харавы ансамбль (з дастаткам салістаў) безагаворачна замахнуўся на першае месца. Так яно і было б, каб не "Бераставіцкія музыкі" з Беларусі...

Гаворачы сёння пра "Світанак", немагчыма памінуць дзейнасць знанага ў горадзе кіраўніка арганізацыі "Крок" – Алега Давідэнкі.

Гэты энергічны, ініцыятыўны інжынер, не шкадуючы часу і рук многае зрабіў для арганізацыі і адраджэння украінскай і беларускай нацыянальных арганізацый. Яго круты характар і настойлівасць не ўсім падабаліся. Але ён дабіўся больш, чым іншыя раёны ў эканамічным і культурным развіці. Ёсць адпаведная кватэра, бібліятэка і кадры. Пры гэтым не можна забывацца і пра яго здольную, актыўную жонку. Таксама – плённыя, добрыя адносіны з гарадскімі і дзяржаўнымі ўладамі. Добры прыклад для іншых!...

І сёння яго суполка дабілася не горшага, чым цэнтральная ("Сябрына"). У Панявежысе не ў першыню выступае ўсебакова "падкаваны", з шырокім рэпертуарам таночна-харавы ансамбль Вісагінаса і з'яўленне найбольшай мастацкай групы артыстаў было сустрэта громам даўгатрывалых воплескаў публікі.

Падагрэтыя такім прыёмам артысты адухоўлена распачалі свае адшліфаваныя, багатыя зместам і сыгранасцю нумары праграмы. Народныя песні, сцэнкі, харавыя і сольныя пункты мастацка апрацаваных, жаночых і мужчынскіх, групавых і сольных песень, жартаў, прыказкаў, танцавальных і сцэнічных выступленняў, - выклікалі шумную і вясёлую рэакцыю захопленай публікі. Сумна і радасна плылі песні роднага народу, якія хутка змяняліся гумарыстычнымі фрагментамі, бурай смеху і выклікалі радасць, а часам і глыбокі смутак, паглыналі нашы пачуцці і бурную рэакцыю. Умеюць беларусы весяліцца! Доўга не змаўкалі апладысменты. Асабліва пасля песні "Ой братка – беларус".

Аднак нечакана, гэта не стала перамогай... На сцэну выйшаў нязнаны для нас Ансабль народнай песні – "Бераставіцкія музыкі", - у складзе 12 асобаў. Чагось асаблівага мы не чакалі і... моцна памыліліся. На шчасце памылка была ў добры бок. Пабочны глядач не паверыў бы, што гэта не прафесіяналы высокага класу.

Ня толькі кіраўнічка ансамбля – Юшкевіч Марыя, але ўсе ўдзельнікі маглі пахваліцца цудоўнымі галасамі, згарманізаванасцю і наогул высока-адшліфаваным узроўнем усіх нумароў праграмы.

Зала замоўкла, як заваражаная, каб за некалькі хвілін выбухнуць громам воплескаў і воклічамі захаплення. Даўно ў людзей так не балелі далоні... Смела можна было параўнаць вышыню і мастацкую вартасць з сённяшнім лідарам беларускай народнай песні – "Забавай" з Карэліч, якая ўжо дабілася еўрапейскага прызнання. У адказ на бурныя пажаданні і просьбы, "Бераставіцкія музыкі" дадаткова прадоўжылі свае цудоўныя выступленні. Эфект – небывалы!

У падзяку артыстам (асабліва салістам і кіраўнікам) цудоўныя букеты і дадатковыя падарункі.

Са шчырай падзякай развітваліся мы з актыўнымі ўдзельнікамі, пераважна ўдзельніцамі, і горача запрашалі іх не забываць пра нас. Не раз гучала "Жыве Беларусь", але і "Хай жывуць нашыя дарагія госці!"

Усе мы шчыра ўдзячныя арганізатарам, мясцовым і віленскім уладам за ўдалае Свята беларускай песні "Панявежыс – 2003".

*А. Сцяпанаў.*

# "Гульня ўяўлення" Алеся Мары

Творчасць Аляксея Марачкіна, ён жа Алесь Мара, ведаю даўно і, здавалася, — добра. Аднак культурніцкая падзея, што адбылася напрыканцы кастрычніка, паказала, што, відаць, гэтага мастака ніколі не ўведаеш да канца. На кожнай выставе адкрываеш для сябе нешта новае, чаго не было раней. Зазірнуць у мастакоўскую кухню творцы апошніх месяцаў можна





Аляксея Марачкіна віталі і віншавалі з адкрыццём новай экспазіцыі Мікола Купава, Уладзімір Арлоў — пісьменнік, Уладзімір Арлоў — рэжысёр, Уладзімір Колас, а таксама прадстаўнікі фірмаў "Палітра" і "Багетная рамка". Даслаў свой верш народны паэт Рыгор Барадулін, які прачытала ягоная дачка, мастачка Ілона.





было ў галярэі "Мастацтва", дзе адбылася выстава, якая доўжылася ўсяго тры дні. Тут побач з вядомымі творамі, зробленымі ў стылі і тэхніцы, якія раней былі знаёмыя аматарам ягонага жывапісу, экспанаваліся невялікія па памерах, амаль мініяцюрныя працы, аб'яднаныя ў адну серыю, якую мастак назваў "Гульня ўяўлення". У анатацыі да выставы ён піша: "Напачатку не ведаеш, што атрымаецца... І толькі напрыканцы ўяўляеш нешта нейкае. Прывіды, вобразы то знікаюць, то зноў паяўляюцца на белым тле паперы." Аглядаючы гэтыя невялікія творы, бездакорна згарманізаваныя ў кампазіцыйных і каларыстычных адносінах, у кожнага гледача будуць узнікаць свае асацыяцыі, свае фантазіі, штуршком для якіх паслужыць гульня ўяўлення мастака.

Пры адкрыцці экспазіцыі мастацтвазнаўца Пётра Васілеўскі назваў гэтую выставу самай таямнічай з усіх, якія былі дагэтуль. Яна не мае аніякай сюжэтнасці, але на ёй кожны можа ўбачыць усё, што захоча, калі дасць волю сваім уласным уяўленням. А пад уплывам добрай аўры мастака атрымае асалоду ад хараства фарбаў, майстэрства, віртуознасці лініі і пэндзля.

Застаецца пажадаць Аляксею Марачкіну новых пошукаў, новых адкрыццяў, новага слова ў мастацтве і, безумоўна, сустрэч з прыхільнікамі ягонага таленту.

*Наш кар.*

# ВУЛІЦА БЫКАВА - ЗАМІЖ СВЯРДЛОВА ЦІ КАМСАМОЛУ?

**Жыхары Горадні працягваюць збор подпісаў пад прапановай перайменаваць Бульвар Ленінскага Камсамолу ў вуліцу Быкава. Пад прапановай ужо падпісаліся 517 гарадзенцаў, большасць з якіх жыхары бульвара. Частка подпісаў з дапамогай дэпутата гарсавету Сяргея Антусевіча ўжо трапіла да старшыні гарвыканкаму і кіраўніка гарадскога савету дэпутатаў.**

В.Быкаў пражыў у Горадні больш за 20 гадоў і змяніў тут тры адрасы. Таму ёсць і альтэрнатыўная прапанова па перайменаванні – назваць у гонар пісьменніка вуліцу Свярдлова.

Ініцыятыўная група па ўшанаванні памяці В. Быкава ў Горадні мае мноства задумак. Сярод іншага – адкрыць музей пісьменніка, усталяваць помнік, заснаваць літаратурную прэмію імя Быкава і пасмяротна надаць спадару Васілю званне ганаровага жыхара горада.

Тым часам гарадзенскія ўлады прынялі рашэнне ўсталяваць мемарыяльную шыльду на доме №9 па вуліцы Парыжскай камуны, дзе жыў пісьменьнік. Надпіс будзе такі: ***"Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі, Герой сацыялістычнай працы, лаўрэат Ленінскай і дзяржаўнай прэмій, жыў і працаваў у Гродне з 1947 да 1978 года".***

***Інга Астраўцова, www.belngo.info***

## У ІНТЭРНЕЦЕ ПАЧАЛОСЯ АБМЕРКАВАННЕ КАНДЫДАТАЎ НА СПАБОР ПРЭМІІ "ГЛІНЯНЫ ВЯЛЕС — 2003"

Полацк, 14 лістапада. У Інтэрнэце на сайтах "Беларуская палічка" і "Літара" пачалося абмеркаванне магчымых кандыдатур на спабор незалежнай літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес — 2003". Любы карыстальнік сусветнай сеткі, зайшоўшы на форумы па адрасах http://www.knihi.com/forum/forum.html?id=386&usie= або http://litara.net/forum/462, можа прапанаваць кандыдатуру на спабор прэміі, а таксама абмеркаваць прапановы іншых.

Інтэрнэт для абмеркавання магчымых лаўрэатаў "Глінянага Вялеса" выкарыстоўваецца ўжо трэці год запар. Сама літаратурная прэмія была заснавана ў 1993 годзе Таварыствам Вольных Літаратараў. Прэмія прысуджаецца за лепшую беларускую мастацкую кнігу года. Уручаецца гліняная статуэтка славянскага бога Вялеса, апякуна мастацтваў, у Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання. Першым лаўрэатам прэміі ў 1993 годзе быў прызнаны паэт Ігар Бабкоў за зборнік "Solus Rex". Потым "Глінянага Вялеса" атрымлівалі Людка Сільнова, Алесь Разанаў, Славамір Адамовіч, Лявон Вашко, Уладзімір Арлоў, Мікола Папека, Сяргей Астравец, Віктар Слінко. Летась прэмію атрымаў Альгерд Бахарэвіч за кнігу прозы "Практычны дапаможнік па руйнаваньні гарадоў".

***Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ, БелаПАН.***

## ШКОЛЬНІКІ БАРЫСАВА АДЗНАЧЫЛІ ДВУХГОДДЗЕ ЎВЯДЗЕННЯ СПЕЦКУРСА "БАРЫСАВАЗНАЎСТВА"

14 лістапада ў Барысаве адзначылі двухгоддзе ўвядзення ў навучальныя праграмы мясцовых школ спецкурса — "Барысавазнаўства".

Як заявіў БелаПАН загадчык гарадскога аддзела адукацыі Аляксандр Бойка, гэты курс дапамог дзецям не толькі глыбей даведацца гісторыю Барысава і раёна, але і без усякага прымусу далучыцца да роднай беларускай мовы.

Паводле яго слоў, штуршком да ўвядзення краязнаўчага курса паслужыла падрыхтоўка да святкавання 900-годдзя горада. Тады ў мясцовых СМІ былі вельмі папулярныя дыскусіі аб тым, дзе, калі і пры якіх акалічнасцях князь Полацкі Барыс Усяславіч заснаваў Барысаў, якія памятныя падзеі адбываліся на гэтай зямлі ў часы Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі і БССР.

Гарадское кіраўніцтва падтрымала гэтую прапанову, а старшыня гарвыканкама Васіль Бургун узначаліў рэдакцыйны савет па выданні кнігі "Дзевяць стагоддзяў Барысава", якую напісала група беларускіх вучоных пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук Георгія Штыхава.

***Алесь НІКАЛАЙЧАНКА, БелаПАН.***

**Адказы на крыжаванку са ст. 12.**

**Па гарызанталях:** 1. Позва. 4. Бастр. 6. Рокаш. 9. Асада. 10. Кон. 11. Лёс. 12. Спадарыня. 15. Галота. 16. Гаўбец. 18. Зганьбаваць. 25. Клуня. 26. Палкі. 27. Роіла. 28.Драчы.

**Па вертыкалях:** 1. Праца. 2. Знагар. 3. Араты. 4. Біклага. 5. Сэнс. 7. Каля. 8. Шуснуць. 13. Прага. 14. Наўда. 17. Аблуда. 19. Гвалт. 20. Накід. 21. Ваяры. 22. Цьвік. 23. Капа. 24. Шнар.

# Дапаможам рэстаўраваць Лідскі замак

**Шаноўныя сябры!** Споўнілася 25 гадоў ад моманту пачатку рэстаўрацыі Лідскага замка, але ўжо каля дзесяці апошніх гадоў работы на замку не вядуцца, тое, што было зроблена, разбураецца. На сёння не вызначана канчаткова нават маёмасная прыналежнасць гэтага ўнікальнага збудавання. Але мы з вамі дакладна ведаем, што Лідскі замак належыць усяму беларускаму народу.

Лідскі замак быў заснаваны Вялікім князем Гедзімінам у 1323 годзе. Гэта найстарэйшы замак Беларусі, які ў значнай ступені захаваўся і можа быць рэстаўраваны. Лідкі замак - унікальнае абарончае збудаванне тыпу "кастэль". Аналагічны яму Крэўскі замак знаходзіцца ў значна горшым стане.

**Лідскі замак** неад'емнае звяно ў "залатым ланцугу Беларусі" з **Гарадзенскіх**, **Навагрудскага**, **Мірскага** і **Нясвіжскага** замкаў. Замкі ў Нясвіжы і Міры рэстаўруюцца. У апошні час пачаліся захады па аднаўленні яшчэ і **Любчанскага** замка. Таму патрэба неадкладнага завяршэння рэстаўрацыі Лідскага замка дыктуецца самім часам.

Шматлікія звароты да міністраў культуры далі невялікі плён. Таму старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў звярнуўся да прэзідэнта краіны і міністра эканомікі, ад якога ў значнай ступені залежыць фінансаванне работ з просьбай садзейнічаць вырашэнню гэтага пытання. Лідская гарадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" ў падтрымку гэтых зваротаў прыступіла да збору подпісаў на адрас міністра эканомікі Рэспублікі Беларусь. Мы звяртаемся да сяброў ТБМ па ўсёй краіне з просьбай аказаць нам дапамогу ў гэтай справе і сабраць, колькі атрымаецца, подпісаў у сваіх населеных пунктах, навучальных установах, на сваіх прадпрыемствах. Гэтым мы пакажам наш агульны клопат пра нашае агульнае багацце. Мы просім аркушы з подпісамі дасылаць або перадаваць у менскую сядзібу ТБМ, адрас: **Румянцава - 13, Мінск, 220005** ці ў лідскую арганізацыю, адрас: **Ліда-2, п/с 7, 231300** для далейшай перасылкі міністру эканомікі.

Мы спадзяёмся на вашую падтрымку.

***Старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Станіслаў Суднік.***

# ЗА ЗАКАНЧЭННЕ РЭСТАЎРАЦЫІ ЛІДСКАГА ЗАМКА

Так павінен выглядаць Лідскі замак

**Сп. Кабякову А. Ул.**
**Міністру эканомікі Рэспублікі Беларусь**

**Паважаны Андрэй Уладзіміравіч!**

Мы грамадзяне Рэспублікі Беларусь просім Вас уключыць у план фінансавання аб'ектаў рэстаўрацыі на 2004 год адзін з самых унікальных беларускіх замкаў –замак XIУ ст. у г. Ліда.

Гэты помнік архітэктуры пачаў аднаўляцца яшчэ ў 1978 годзе і быў амаль зроблены. Але апошнія гады работы не фінансуюцца і паступова разбураецца тое, што было збудавана раней.

Ведаючы Вашу здольнасць лічыць народныя грошы на карысць дзяржавы, прапануем сканцэнтраваць неабходныя сродкі на канчатковую адбудову замка з мэтай ператварэння яго ў цэнтр міжнароднага турызму.

| № п/п | Прозвішча, імя імя па бацьку | Адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Подпісы збіраў:

**Васіль Ліцьвінка**

# Улюбёны ў родную мову і культуру

## 180-годдзе любаньца Паўла Шпілеўскага (1823-1861)

У 50-я гады XIX стагоддзя ў аўтарытэтных рускіх часопісах "Музычны і тэатральны веснік", "Мастацтва", "Ілюстрацыя", "Рускі свет", "Сын Айчыны", "Сучаснік" і "Пантэон" з'явіліся шматлікія публікацыі выпускніка Пецярбургскай духоўнай акадэміі Паўла Шпілеўскага – ураджэнца вёскі Шыпілавічы з Любаньшчыны. Нарадзіўся ён тут у сям'і мясцовага святара Міхася Шпілеўскага 12 лістапада 1823 года. З дзяцінства закаханы ў мову, фальклор, культуру сваёй радзімы, гэты выдатны фалькларыст, літаратар і публіцыст стаў першаадкрывальнікам мовы і традыцыйнай культуры беларусаў у тагачаснай Расіі. Пасля атрымання грунтоўнай адукацыі спачатку ў суседнім з радзімай Слуцкім духоўным вучылішчы, а пазней Менскай духоўнай семінарыі, ужо пад час вучобы ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі ў 1845 годзе ён стварыў "Слоўнік і кораняслоў беларускай гаворкі" (на жаль, надрукаваны быў толькі часткова). У Пецярбургскай акадэміі навук яго высока ацанілі і даручылі скласці "Праграму вывучэння беларускай гаворкі" як этнічнаму беларусу, які тонка адчуваў асаблівасці роднай мовы, добра ведаў фальклор, дзе дакладна вызначана функцыянальнае месца не толькі слова, якое "з песні не выкінеш", але і гука, змяніць які не дасць мелодыя.

Напачатку сваёй вялікай збіральніцкай і даследчыцкай працы патрыёт сваёй радзімы яшчэ ў студэнцкія гады пісаў: "Мне ўспамінаюцца тыя цудоўныя дні, поўныя радасці, якую нельга апісаць і якая зразумела толькі таму, хто сам гэта адчуў, дні, у якія я спяшаўся на канікулы з губернскага горада ў аддалены павет і мог з поўнай свабодай раз'язджаць па вёсках і сёлах, дзе па нейкай неўсвядомленай ахвоце да вывучэння народных паданняў і казак прыслухоўваўся да гукаў гарманічнай, пявучай беларускай мовы, запісваў словы і апавяданні з вуснаў сялян, прабіраўся ў хаты і клеці, знаходзіў задавальненне гутарыць за сціплым пачастункам з сівымі дзядамі і маршчыністымі бабулькамі. Што цягнула мяне туды, у бедныя хаты гэтых людзей? Не ведаю..., я люблю гэтых добрых людзей, я знаходзіў радасць у іх павольнай гаворцы, у іх песнях, прыказках і прымаўках, мне весела было жыць з імі, дзяліцца чыстымі захапленнямі іх душ; мне не хацелася ісці з іх хат, мне шкада было развітацца з іх куткамі, дзе я пачуў столькі дзівос і цудаў пра князёў зачараваных і князгінь заваражаных, пра скарбы і пачвары, што іх сцерагуць, пра чарадзейныя падзямеллі і знахароў-чарадзеяў... Колькі новага, невядомага мне са школьнай лаўкі я даведаўся ў гэтым народным вучылішчы... Я жыў з імі, я рос сярод іх." Дзіўна, што так напісаў вучоны, які не толькі меў грунтоўную адукацыю ў многіх галінах навукі, але і выкарыстоўваў у сваіх працах больш чым 15 моў, а ведаў, зразумела акрамя беларускай і рускай, яшчэ грэчаскую, лацінскую, нямецкую, французскую і яўрэйскую.

Глыбока сімвалічна, што Шпілеўскі ў 1852 годзе адмовіўся ад духоўнага сану і апошнія дзевяць год жыцця прысвяціў даследванню фальклору і этнічнай культуры роднага краю і літаратурнай працы. Ён заглыбіўся ў міфалогію і этнічную культуру беларусаў і ўслед за пачынальнікам славянскай фалькларыстыкі Зарыянам Далегам-Хадакоўскім на канкрэтным матэрыяле сцвердзіў, што беларуская фальклорная традыцыя ў сваёй аснове мае старажытны дахрысціянскі характар, калі грунтам яе былі найвялікшыя багі на зямлі – Прырода і Космас. Здаецца, што да разумення гэтага мы ідзём толькі цяпер, хаця большасць з нас усё яшчэ гібее ў надуманых і чужых догмах, хаця залежнасць ад персаніфікаваных у фальклоры з'яў прыроды Сонца, Месяца, Маланкі, Дажджу, Марозу ў нас паўсядзённая. Менавіта таму яны ў першую чаргу міфалагізаваліся ў разнастайных формах традыцыйнай культуры.

На старонках фальклорна-этнаграфічных прац Паўла Шпілеўскага вобразы Купалы, Лады, Ляскуна, Копшы і шматлікія іншыя, выяўленыя рамантычным светаадчуваннем аўтара, пачынаючы з ранніх "Беларускіх народных павер'яў" 1846 года, прадстаўлены поўна і мнагаліка. Пад мнагазначным псеўданімам Драўлянскага ў названай працы дадзены апісанні 52 прыродна-паэтычных ўвасабленняў. З дапамогай свайго паэтычна-ўзнёслага, рамантычнага светапогляду, па шматлікіх тэкстах паданняў, Шпілеўскім выяўлены міфалагічны Алімп беларусаў. Аўтар сведчыць: "У простым народзе беларускіх губерняў можна знайсці многа звычаяў, ігрышчаў, абрадаў, прыгаворак, якія вядуць свой пачатак ад часоў язычніцтва... Нельга не здзіўляцца, як маглі захавацца многія песні без усялякіх змен: цяжка знайсці ў іх якую-небудзь перамену не толькі ў думках, але нават і ў словах". Аўтар адзінага вялікага раздзела аб фальклярыстычнай працы Шпілеўскага ў кнізе "Да народных вытокаў" (1986) Іван Цішчанка сурова называе гэта прынцыповае выказванне памылковым, а паданні – псеўдаміфамі. Думаецца, што гэта не так.

Шпілеўскі-міфолаг меў рацыю, калі сцвярджаў, што хрысціянскія часы паўплывалі па розных прычынах на прыродна-натуральныя асновы светаўспрымання беларусаў вонкава, фармальна. Гэтым ён развіў працу пачынальніка славянскай фалькларыстыкі, беларуса з Лагойшчыны Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага "Славянства да хрысціянства" 1818 года. Заўважым, што ў наш час на аснове максімальна аб'ектывізаваных комплексных этналінгвістычных даследаванняў у цяперашнім, этнічна адзіным з Любаньшчынай Чарнобыльскім рэгіёне гэта аўтарытэтна пацвердзіў праўнук Льва Талстога, акадэмік Расійскай акадэміі навук Мікіта Талстой выдадзенай у гэтым годзе кнігай "Нарысы славянскага язычніцтва". Такім чынам, Шпілеўскі-Драўлянскі як бы перакінуў навуковы масток у наш час ад часоў Хадакоўскага, 220-гадовы юбілей якога мы будзем адзначаць на Раство па грыгарыянскаму календары ў наступным 2004 годзе.

Багаты фальклорны матэрыял перадаў нам Шпілеўскі ў вялікай колькасці іншых прац: "Даследаванні аб ваўкалаках на аснове беларускіх паданняў" (1853); артыкуле "Вясельная абраднасць у засцянкоўцаў Віцебскай губерні" (1854); п'есе "Дажынкі" (1857) – "сцэнічным прадстаўленні ў двух дзеях аб беларускім народным звычаі з харамі, песнямі, карагодамі і скокамі беларускімі"; артыкуле аб святкаванні Юр'я (1858). Бясцэнная, апублікаваная ім калекцыя з 500 прыказак і прымавак, бо ў ёй Шпілеўскі – выдатны мовазнаўца свайго часу – захаваў фанетыку беларускай мовы, па вызначэнню яго сучасніка Адама Міцкевіча ў яго вядомых парыжскіх лекцыях "найбольш мілагучнай са славянскіх моў за кошт таго, што захавала паўнагалоссе". Багатыя фальклорныя матэрыялы ёсць і ў шматлікіх аўтабіяграфічных творах літаратара Шпілеўскага.

Галоўныя дзве працы фалькларыста Паўла Шпілеўскага, якія паралельна друкаваліся ў 1853 годзе ў часопісах – някрасаўскім "Сучасніку" (заснаваным Аляксандрам Пушкіным) і коніўскім "Пантэоне", – "Вандроўка па Палессі і Беларускім краі" (перавыдадзена ў 1992 годзе) і "Беларусь у характарыстычных апісаннях і чарадзейных яе казках".

У першай зоркае вока вучонага раскрыла ўсё, што траплялася яму ў час падарожжа з Варшавы (там ён працаваў пасля заканчэння духоўнай акадэміі) праз Палессе на цэнтральную Беларусь. Акрамя гістарычных звестак, Шпілеўскі дэталёва ўзнаўляе тут паўсядзённы побыт народа, апісвае адзенне, ежу, танцы, прыводзіць легенды і тапанімічныя паданні, песні. Верны сын сваёй радзімы, дэмакрат па перакананнях горача заклікае тагачасную грамадскасць звярнуць увагу на ўнікальную захаванасць рэліктаў стараславянскай міфалогіі і этнічнай культуры, рэшткі родавых адносін у беларусаў. Ён адным з першых указвае на дзяржаўнасць беларускай мовы у Вялікім княстве Літоўскім (дакладней было б у наш час іменаваць "Ліцьвінскім"), услед за Адамам Міцкевічам адзначае, што яшчэ напрыканцы XVIII ст. на ёй гаварылі большасць менскіх, магілёўскіх, віцебскіх памешчыкаў (які выдатны прыклад для нашых чыноўнікаў!), а ўніяты нават пісалі на ёй свае метрычныя кнігі (яшчэ лепшы прыклад для нашых праваслаўных святароў).

У другой названай вышэй працы Шпілеўскі дае панараму абрадаў і звычаяў беларусаў першай паловы XIX ст. Адкрываецца яна ўсхваляваным уступам, дзе аўтар выказвае сваю палымяную любоў да радзімы – Беларусі, яшчэ раз акцэнтуе ўвагу даследчыкаў, што ў ёй захаваліся архетыпы старажытнаславянскай эпохі.



*Беларуская вёска ў часы Шпілеўскага*

Сярод 15 апісанняў у рабоце вылучаюцца: нарыс "Беларускі кірмаш", дзе апошні пададзены як тэатралізаванае, батлеечнае, песеннаезабаўляльнае прадстаўленне, і "Калядныя павячоркі" – звычаёвая форма забаў, вячорак вясковай моладзі, (на пачатку XX стагоддзя яны былі выдатна выкарыстаны Ігнатам Буйніцкім, а ў наш часу былой самай даўгавечнай 25-гадовай (з 1978 па 2002 г.) фальклорнай тэлепраграме Беларускага тэлебачання "Запрашаем на вячоркі"). Яшчэ шырэй, чым у папярэдняй, Шпілеўскі падае тут апісанні танцаў і тэкстаў да іх, акцэнтуе ўвагу на першаснай ролі танцора-завадатара на вячорках. Але самае каштоўнае тут, што Шпілеўскі падрабязна апісвае танцы, скокі моладзі таго часу, нават асобныя каленцы іх, дае сэнсавы і выяўляе агульны малюнак танцаў, прыводзіць тэксты танцавальных, карагодных і скокавых песень.

Такі ж адпаведны фальклорна-этнічны матэрыял ёсць у іншых апісаннях: "Вясельныя абрады жыхароў Магілёўскай і Менскай губерняў"; "Абрады сялян Віцебскай і Менскай губерняў пры ўборцы ўраджаю з палёў"; "Радзіны і хрэсьбіны" і ва ўсіх іншых. Дапаўняюць гэтыя дзве грунтоўныя працы "Апісанне пасольства Льва Сапегі ў Маскву у 1600 годзе" (1850), аўтабіяграфічнае апавяданне "Знаёмая незнаёмка" (1851), "Нарысы Жмудзі" (1855), аповесці "Цыганё" (1855) і "Сівая маска" (1857), "Заходнерускія нарысы" (1858), "Мазыршчына" (1859), "Паездка ў заходнія губерні" (1860) і некаторыя іншыя працы, дзе ва ўсёй сваёй красе і мнагалікасці прадстаўлены фальклорна-этнаграфічныя, у тым ліку і аўтабіяграфічныя матэрыялы.

Любаньшчына дала Беларусі ў 1823 годзе двух выдатных вандроўнікаў-фалькларыстаў – Уладзіслава Сыракомлю і Паўла Шпілеўскага. Адпаведна характару і стылю дзейнасці свайго выдатнага земляка Паўла Шпілеўскага да 170 угодкаў з дня яго нараджэння на Любаньшчыне 13-14 лістапада 1993 года самаахвярныя працаўнікі аддзела культуры наладзілі фальклорную вандроўку на вазках, асноўнымі момантамі якой былі імпрэза на радзіме фалькларыста ў Шыпілавічах і заключнае свята з удзелам лепшых фальклорных калектываў у цудоўным палацы вёскі Сарачы ля Любані. Падобная прыгожая вандроўка паўтарылася да 175-годдзя 14-15 лістапада 1998 года і нядаўна адбылася 15 лістапада 2003 года, аб чым мы раскажам асобна.

Ініцыятарамі гэтай прыгожай дзеі сталі самаахвярныя працаўнікі культуры на Любаньшчыне Галіна Жураўская, Любоў Серавокая, Зоя Дубік і Васіль Каткавец. Які выдатны гэта прыклад даследавання гісторыі і культуры сваёй радзімы і любові да людзей.

Своечасова, як лыжачка да абеду, праведзеная 180 год назад маштабная і грунтоўная праца паплечніка выдатных дэмакратаў Расіі Някрасава і Дабралюбава Паўла Шпілеўскага па выяўленню вытокаў этнічнай культуры беларусаў залатымі літарамі ўпісала яго імя ў гісторыю нашага народа. З бегам часу яна будзе адыгрываць усё большую і большую ролю ў сцвярджэнні самабытнасці нацыянальнай культуры беларусаў і вызначэнні нашага месца ў сусветнай супольнасці.

Усяго толькі 38 год пражыў на гэтым свеце Шпілеўскі. Ён з малых год быў уражаны, што Беларусь, па яго ўласнаму выказванні, – была "terra incognita", невядомы край у тагачаснай Расіі. Вучоны ў значнай ступені паспеў запоўніць гэтую пустку і ўслед за Янам Чачотам і Адамам Міцкевічам паказаць унікальнасць, багатую міфалогію, незвычайную этнічную самабытнасць і старажытнасць культуры Беларусі і сваёй малой радзімы – Любаньшчыны.




# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

У гэтым указе сказана ясна, што "зняцце" абмежаванняў не азначае аўтаматычнае права на паварот на Бацькаўшчыну. Гэта залежала яшчэ ад... абласных дэпутатаў. А ці дэпутаты якія ў першую чаргу прычыніліся да таго, каб Саветы нас арыштавалі і вывезлі на катаргу, цяпер ужо пакаюцца і пагодзяцца, каб іхнія ахвяры вярнуліся дамоў. Сумняваюся. Такія людзі не маюць сумлення.

### ВЫЕЗД З 10-ГА КВАРТАЛА

Яшчэ задоўга, да выезду людзі пачалі дамаўляцца, хто з кім будзе ехаць ў адным вагоне. У нашым вагоне былі наступныя людзі:

(а) Тры сям'і Ражкавец з вёскі Семаховічы, Пінскага раёна. Гэта сем'і Івана (6 асоб), Паўла (4 асобы) і Ёсіпа (4 асобы);

б) Сям'я Сямёна Хлуса з вёскі Рылавічы, Янаўскага (Іванаўскага) раёна, 5 асоб;

(в) Сям'я Хведара Крыўчуна з Янаўскага раёна, 4 асобы;

(г) Наша сям'я Швэдзюк, з вёскі Патапавічы, Янаўскага раёна, 8 асоб. Дык усіх разам у нашым вагоне было 31 асоба. Усе беларусы.

Вагоны былі таварныя, не пасажырскія, і падобныя да такіх на якія нас ладавалі ў Пінску 11.ІІ.1940 года, з усімі "выгадамі" г. зн. нарамі, цяплушкамі. Толькі ў маленькіх вокнах ужо не было кратаў і дзверы можна было адчыняць і зачыняць.

На пачатку 1942 года мы пакінулі наша паселішча, 10-ты квартал і паехалі на поўдзень, у бок Волагды. Цягнік быў вялікі. Па дарозе едзем цераз Плясецк, Няндалму, Канашу г. зн. тыя самыя гарадкі, з іхнімі прыгожымі царкоўнымі купаламі, цераз якія мы ехалі ў 1940 годзе. Па дарозе спатыкаем больш цягнікоў з былымі спецперасяленцамі. Чым далей едзем, тым больш іх спатыкаем.

З Волагды накіроўваемся на ўсход, у бок Урала Едзем цераз Буй, Шарыю, Кацельніч, Кіраў, Глазаў, Молатаў да Свярдлоўска на Урале. Першы раз у жыцці мы забачылі горы. З Свярдлоўска мы накіраваліся на поўдзень да Чалябінска з Чалябінска мы едзем цераз Троіцк, Карталы да Орска. З Орска мы накіроўваемся на захад і даязджаем да гарадка Саракташ, каля Чкалава.

Мы ў дарозе ужо шэсць тыдняў. Па дарозе людзі паміраюць. У суседнім вагоне памерла наша аднасяльчанка, старэнькая бабка Кананчук. У нашым вагоне памірае Іван Ражкавец, былы ляснік на Завішчы, з вёскі Семяховічы. Памёр, тако ж, у нашым вагоне маладзенькі хлопчык (яму было каля 8 годзікаў), сын Хведара Крыўчуна. Нябожчыкаў выносілі з вагонаў на перон, адкуль іх забіралі мясцовыя ўлады. Дзе і як іх хавалі, мы не ведалі. Цягнік, паводле раскладу, цягнуўся далей і далей.

Бывала часта, што людзі, якія пайшлі па хлеб ці кіпяток адставалі ад цягніка. Тут зноў бяда, зноў плач.

Харчы, якімі людзі запасліся яшчэ на пасёлку ў Плясецкім раёне у многіх людзей ужо скончыліся; у гэтых людзей была безнадзейная сітуацыя. Некаторыя былыя спецперасяленцы, не маючы другога выйсця, пачалі здабываць прадукты да яды не праўным ці легальным спосабам. Пачалі акрадаць цягнікі з прадуктамі, менавіта гэта давяло да таго, што наш цягнік затрымалі ў Саракташы.

У драматычных абставінах затрымалі наш цягнік на станцыі Саракташ. Было падазрэнне, што людзі з нашага цягніка абакралі савецкі цягнік з прадуктамі харчавання. Усіх дарослых мужчын і трохі кабет забралі да міліцыі на допыты і расследаванні. У кожным вагоне міліцыя рабіла дакладную рэвізію, шукалі крадзеных прадуктаў. Допыты і рэвізіі цягнуліся некалькі дзён. Міліцыя, не знайшоўшы крадзеных прадуктаў у вагонах нашага цягніка, адпусціла ўсіх затрыманых. Праўда, затрымалі аднаго малалетняга хлопца, Анджэя Вільскага. Але яго затрымалі за заўсім іншую справу. Што з ім сталася – няведама.

Мы думалі, што пасля ўсяго гэтага паедзем далей, да Уральска. Аднак сталася трохі інакш з нашым вагонам. Наш вагон адчапілі ад іншых вагонаў і затрымалі; астатнія вагоны паехалі далей. Мы не ведалі чаму з цэлага цягніка затрымалі толькі адзін, наш вагон. Мы перепалоханыя не ведалі ці гэта была памылка, ці якаясь правакацыя, ці злосны і фальшывы данос. Аднак, пасля пошукаў і рэвізіі, у нашым вагоне нічога не знайшлі. І нікога не затрымалі.

Цераз некалькі дзён наш вагон, ужо адзін, апусціў Саракташ. Даехалі да Чкалава. З Чкалава, цераз Глецкую Зашчыту даехалі да Уральска ў Казахстане. У Уральску поўна людзей з былых спецперасяленцаў. Тут мы хутка зразумелі, што Уральск і яго ваколіцы не ёсць добрым месцам, каб там пасяліцца. Дык куды цяпер ехаць? Куды кіравацца? Дзе шукаць нашае Эльдарада?

Мы ведалі, што немцы ёсць добрымі гаспадарамі. Дзеля гэтага мы пастанавілі ехаць да Нямецкага Паваложа, тым больш, што мы былі ўжо блізка ад яго. Акрамя гэтага, мы планавалі, што быць можа туды прыйдзе фронт, і ў нас будзе магчымасць вярнуцца на Бацькаўшчыну. Бо ў нас цэлы час была толькі адна думка, адна мара, гэта вярнуцца дамоў, да сваёй вёскі.

У Уральску мы папрасілі начальства, каб нас направілі да Энгельса. На Нямецкім Паваложы. Да Энгельса не даехалі. Затрымаліся на станцыі Урбах (цяпер Пушкіна). З Урбаха паехалі на поўдзень да гарадка Красны (Чырвоны) Кут. Тут і затрымаліся на прыблізна 10 дзён.

Станцыя Красны Кут і сам гарадок вельмі чыстыя. Напісана на нямецкай і рускай мовах. Але сам гарадок пусты, няма людзей, толькі галодныя сабакі бегаюць па вуліцах. Нямецкай мовы нідзе не чуць. Мы дазналіся, што ўсіх немцаў дэпартавалі на Усход.

Аказалося, што на станцыі і ў гарадку Красны Кут вялікі недахоп працоўнай сілы. Дык мясцовыя людзі ўцешыліся, што мы туды прыехалі і хацелі б там застацца і працаваць. А нам тако ж спадабалася там. Але ,каб там застацца і пасяліцца, трэба было ўсё аформіць, высветліць. От чаму мы там затрымаліся каля 10-ці дзён. А наша справа была наступная.

Хоць мы ўсе добра гутарылі па расейску, мы муселі паказаць начальству нашыя дакументы – пасведчанні, у якіх было напісана, што мы польскія грамадзяне. Мясцовая ўлада паведаміла польскую амбасаду ў Куйбышаве аб нас. І ў міжчасе мясцовая ўлада паведаміла нас, што гэтая мясцовасць (Красны Кут) знаходзіцца цяпер у ваеннай зоне і што нам не можна было там пасяляцца.

З Куйбышава прыехаў да нас працоўнік з польскай амбасады. Ён паўтарыў нам тое, аб чым мы ўжо ведалі г. зн., што нам не дазваляецца пасяляцца на Нямецкім Поволожы. Але ён паведаміў нас, што было пагадненне паміж польскім урадам і СССР паводле якога Саветы дазволілі былым польскім грамадзянам выехаць з СССР да Ірана. Ён нам радзіў ехаць да Сярэдняй Азіі і старацца выехаць да Ірана. Мы паслухалі гэтага добрага чалавека.

Быў ужо пачатак сакавіка. Так як у нас былі вельмі добрыя суадносіны з чыгуначным начальствам у Красным Куце, мы хутка вярнуліся назад да Урбаха (Пушкіна), дзе папрасілі начальніка станцыі, каб прычапілі наш вагон да паспешных цягнікоў, якія едуць у бок Ташкента. Доўга на гэта не чакалі. Наш вагон прычапілі да цягніка з раненымі савецкімі байцамі, якіх адпраўлялі на лячэнне ў Сярэдняй Азіі.

Добра было нам ехаць з гэтымі (байцамі) людзьмі. Мы з імі пасябравалі, гутарылі.

Па дарозе давалі яду. Эшалон ехаў хутка, мала дзе спыняўся. Ехалі цераз Уральск, Глецкую Зашчыту, Акцюбінск, Аральск, да гарадка Арысь у Казахстане недалёка ад Ташкента. Ў Арысі нас адчапілі ад цягніка з раненымі чырвонаармейцамі.

На станцыі Арысь многа цягнікоў і вагонаў з былымі спецперасяленцамі. Спаткалі тут беларусаў з пасёлка Нухта-возера. Пачалі спатыкаць многа адзінокіх беларусаў, якія нам казалі, што яны былі на зборных пунктах, дзе прымалі людзей да польскага войска. Дазналіся мы ад гэтых людзей, што беларусаў, праваслаўных, палякі не бяруць да свайго войска. Казалі яны тако ж, каб уступіць у гэтую (польскую) армію, трэба падавацца што польскай нацыянальнасці і рыма-каталіцкай веры.

Тут трэба патлумачыць, што беларусы хацелі ўступіць у польскую армію, не дзеля таго, каб ваяваць за Польшчу, не дзеля таго што яны былі польскімі патрыётамі. Яны (беларусы) хацелі ўступіць у армію па-просту дзеля таго, каб ратаваць сваё і сваіх сям'яў жыццё і выехаць з Савецкага Саюза.

*(Працяг у наст. нумары.)*







Шлях сям'і Швэдзюкоў па СССР

Мікола Котаў

# НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ

***Для любога ўзросту, танцавальныя, жартоўныя, рухомыя, седзячы, стоячы, масавыя і ціхія, для любой вечарыны, абрадавага свята, вяселля, юбілею, на свежым паветры: на вуліцы, плошчы, лузе, на вадзе і ў любых памяшканнях***

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

### БЕГ У ДЗЕЖКАХ

Двум гульцам даюць дзежкі без дна. Яны залазяць у іх і па сігнале бягуць — хто хутчэй пройдзе некаторую вызначаную адлегласць, той і пераможца.

Можна гуляць камандамі, прабягаючы туды і назад і перадаючы наступнаму дзежку.

### ДВАЦЦАЦЬ ПАЛАЧАК

Гуляць можна як на паляне, так і ў зале. Для гульні патрэбна дваццаць палачак і дошчачка.

Дошчачку кладуць на калоду ці якое іншае прыстасаванне, на адзін край дошчачкі кладуць палачкі. Вядовец са словамі:

***- З-пад печкі***
***Вынь дашчэчкі.***
***Бах! —***

б'е нагою па пустым краі дошчачкі. Палачкі разлятаюцца, і хто больш іх збярэ, той і перамог.

### ПЕРАЙСЦІ БАЛОТА

Гуляюць дзве каманды з роўнай колькасцю ўдзельнікаў. Гульцы становяцца адзін за адным. Першым вядовец дае па дзве дошчачкі (такія, каб магла стаць нага) і аб'яўляе:

- Перад вамі балота, вельмі топкае, глядзіце не патаніце.

Па камандзе першыя гульцы кладуць дошчачку, ступаюць на яе, трохі далей кладуць другую і пераходзяць на яе. Так, перасоўваючы тыя дошчачкі і стараючыся не ўпасці, пераходзяць "балота". Затым бяруць дошчачкі, аббягаюць "балота" і аддаюць дошчачкі наступнаму гульцу сваёй каманды. Чыя каманда хутчэй "пяройдзе балота" і зберажэ ўдзельнікаў, тая і пераможца.

### ГАРАДЫ

На зямлі ці на падлозе чэрцяць вялікі круг, дзеляць яго на роўныя часткі — "гарады" і даюць ім назвы. "Гарадоў" павінна быць на адзін менш, чым ўдзельнікаў гульні. Гульцы становяцца збоку. Вядовец, які не мае "горада", падкідае ўгору мяч і выкрыквае назву якога-небудзь "горада". Той, чый горад названы, ловіць мяч. Усе бягуць і стараюцца заняць "гарады", а той, у каго мяч, кідае яго, каб пацэліць у каго-небудзь з гульцоў. Калі пацэліў, той бярэ мяч і становіцца вядоўцам. А пацэліўшы таксама імкнецца як хутчэй заняць "горад". Хто апошні стаў на "горад", той выбывае з гульні, а ягоны "горад" выкрэсліваецца. Гульня працягваецца, пакуль не застанецца адзін "горад".

### ДОБРАЙ РАНІЦЫ, ПАЛЯЎНІЧЫ!

Усе гуляючыя стаяць у крузе. Выходзіць "паляўнічы" са стрэльбай. Да яго ідзе адзін з гульцоў, кажа:

- Добрай раніцы, паляўнічы!" — і вітаецца з ім за руку.

І адразу яны навыперадкі бягуць да таго месца ў крузе, дзе стаяў той, хто вітаўся. Хто першы займе месца, той становіцца паляўнічым, а не паспеўшы выбывае. Перамагае той, хто больш разоў будзе паляўнічым.

### СМАЧНАЯ БУЛЬБА

Дзвюм камандам па пяць чалавек даюць па кошыку, у кожным кошыку па дзесяць бульбін. Насупраць кожнай каманды "поле", на якім малююць па дзесяць кружочкаў. Першы з кожнай каманды павінен бегчы і "пасадзіць" бульбу — кожную бульбіну ў асобны кружочак, а кошык прынесці наступнаму. Той бяжыць і збірае бульбу, трэці зноў садзіць, і так да апошняга. Якая каманда хутчэй пасадзіць і збярэ бульбу, тая і перамагла.

*(Гульню праводзяць пад музыку танца "Бульба".)*

### БЕГ У ТАЗАХ

Гуляюць дзве каманды. Удзельнікі становяцца адзін за адным, першыя ў руках трымаюць па два тазікі. Па сігналу вядоўца першыя становяцца ў іх і павінны прайсці дыстанцыю прыкладна ў пяць метраў, а назад сунуць іх перад сабой рукамі. Так робіць уся каманда. Якая каманда першай закончыць, тая і перамагла.

### РАЗБІ ГЛЕЧЫК

Для гэтай гульні патрэбны глечык, дубінка і хустка. Глечык ставяць на зямлю. Жадаючаму яго разбіць завязваюць вочы хусцінкай, даюць у рукі дубінку. Затым адводзяць ад глечыка метраў на дзесяць і, пакруціўшы 7–8 разоў вакол сябе, пускаюць. Ён павінен падысці і ад аднаго замаху трапіць па глечыку. Калі не трапіў, то выбывае з гульні, а яго месца займае наступны.

### ЧЫГУНКІ

Для гэтай гульні патрэбны два чыгункі, два вілошнікі і дзве аднолькавыя гурбы бульбы (бульбу кладуць на адлегласці прыкладна ў 10 м ад гульцоў). Гульцы дзвюх каманд стаяць адзін за адным. Каля першых стаіць чыгунок і вілошнік. Па сігналу вядоўца першыя бяруць вілошнікамі свае чыгункі, бягуць да гурбы бульбы, накладаюць па бульбіне ў чыгунок, бягуць назад, вымаюць бульбіну. Наступныя робяць тое ж. Якая каманда хутчэй перанясе ўсю бульбу, тая і перамагла.

### ШЫЛА

Усе гульцы становяцца шчыльна ў круг, рукі трымаюць за спіной. Вядовец стаіць у цэнтры. Па камандзе ўдзельнікі перадаюць адзін аднаму за спіной шыла (ці верацяно), жартуючы з вядоўцам, стукаючы яго па спіне. Калі вядовец ўгадае, у каго шыла, той становіцца на яго месца, і гульня працягваецца.

### ЛЕБЕДЗЬ, РАК І ШЧУПАК

Трое гульцоў бяруцца за кольца, зробленае з вяроўкі даўжынёй 2 метры. Прапарцыянальна супраць кожнага ставіцца прыз на адлегласці 2 метры. Па камандзе вядоўца кожны цягнецца да свайго прыза. Хто першы ўхопіць, той і выйграў.

### РОЗНАКАЛЯРОВАЯ ГІРЛЯНДА

Дзвюм камандам па пяць чалавек даюць па пяць надзіманых шароў, па два метры вяроўкі і ніткі. Па сігналу вядоўца яны павінны надзьмуць шары і прычапіць іх на вяроўку. Якая каманда хутчэй і прыгажэй гэта зробіць, тая і пераможца, у яе гонар выконваецца танец ці робяць пачастунак.

### КАСМІЧНЫ ШЛЯХ

На падлозе ці зямлі чэрцяць дарожку даўжынёй у 3 м і шырынёй у 20 см (каб стала стапа). Гуляючы апускае рукі ўніз, згінаецца у пояснiцы. Яго круцяць на месцы восем разоў. Потым ён павінен выпраміцца і пайсці па дарожцы. Калі не сыйдзе за лініі, то годны ляцець у космас, і яму даюць прыз.

### ХТО ХУТЧЭЙ
**(Для хлопчыкаў)**

Дзве вяроўкі аднолькавай даўжыні звязваюць а да канцоў прывязваюць за сярэдзіны палкі па паўметры дыўжынёй. Удзельнікі з двух канцоў трымаюць палкі, нацягнуўшы вяроўкі. Па камандзе ці па свістку яны пачынаюць намотваць вяроўку на палку. Хто першы даматае да вузла, той і перамог.

### ЦІР НА СНЕЗЕ ЦІ ЛЁДЗЕ

На снезе ці лёдзе малююць мішэнь. Гульцы становяцца на адлегласці 10 м. Трэба закінуць клюшкай ці рукой шайбу альбо мячык, каб пацэліць у мішэнь. Хто больш набярэ ачкоў, той і пераможца. *(Загадзя дамаўляюцца, па колькі кідкоў робяць.)*

Гуляць можна і камандамі. Тады ўсе робяць па адным кідку, і камандзе залічваецца агульная колькасць ачкоў.

### ХТО ЎСТАЦЬ

Па баках доўгай лаўкі становяцца хлопцы (адлегласць адзін ад другога — метры чатыры; калі няма такой лаўкі, можна узяць дзве табурэткі, калі гуляюць у лесе — стаць на пянькі ці проста намаляваць на зямлі кружкі). Ім даюць аднолькавыя палкі. Па камандзе "пачалі!" яны павінны спіхваць суперніка з лаўкі. Перамагае той, хто ўтрымаецца.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

***Склаў Ігар Паўлоўскі***




***Па гарызанталях:*** 1.Повестка. 4.Сахарный песок. (нізкай якасці). 6. Мятеж. 9. Рукоятка (гэбля, малатка). 10. Рок. 11. Судьба. 12. Госпожа. 15. Голь. 16. Балкон. 18. Опозорить. 25. Сарай (для гаспадарчых прыладаў). 26. Пылкий. 27. Хаос. 28. Коростели.

***Па вертыкалях:*** 1. Труд. 2. Борец. 3. Пахарь. 4. Фляжка. 5. Смысл. 7. Около. 8. Шмыгнуть. 13. Калитка (у браме). 14. Выгода. 17. Ошібочный взгляд. 19. Насилие. 20. Набросок. 21. Воины. 22. Гвоздь. 23. Стожок. 24. Шрам.

*(Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 17. 11. 2003 г. Замова № 2544.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
*Кошт у розніцу:* 240 руб. (у Менску - 250 руб.)